

Гайнаўскія мастакі→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Сябра беларусаў→5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 08 (3015) Год LIX | Беласток, 23 лютага 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

— Беларусы, як ніякая іншая меншасць, канструктыўна і творча ўдзельнічалі ў стварэнні дакумента, — сказаў Дабеслаў Жэмянеўскі, начальнік аддзела нацыянальных і этнічных меншасцей Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. — Вы паказалі, што нягледзячы на існаванне розных арганізацый, якія займаюцца рознымі праблемамі, умееце гаварыць адным голасам.



Барбара Пякарская і Андрэй Сцепанюк

# Запісалі стратэгію для беларускай асветы

Словы пахвалы былі накіраваны ў першую чаргу ў адрас працоўнай групы, якая цягам апошніх двух гадоў працавала пад кірункам Барбары Пякарскай.

Сустракаліся ў выхадныя, часта даязджаючы з іншых мясцін. Працу настаўнікаў падтрымалі лідары грамадскіх арганізацый: Аб'яднання АБ-БА, Беларускага саюза ў РП, Беларускага гістарычнага таварыства, Звязу беларускай моладзі, Літаб'ядання „Белавежа" і тыднёвіка „Ніва". Дзень 11 лютага 2014 г. можна лічыць гістарычнай падзеяй для беларускай меншасці ў Польшчы, калі супольна апрацаваны ўрадам і беларусамі дакумент быў афіцыйна прыняты. Сустрэча прайшла ў Ваяводскай управе, а адкрыў яе сам гаспадар — ваявода Мацей Жыўна.

Сярод галоўных прапаноў, запісаных у дакуменце — працяг адукацыі на розных этапах навучання, ад прадшколля па ўніверсітэт. У час сустрэчы шмат гаварылася пра стварэнне факультэта этнафілалогіі на Беластоцкім універсітэце. Апошняя справа разглядалася ў катэгорыі планаў, якія неабавязкова павінны здзейсніцца. Сумненні наклікала жыццё — якраз ідзе гутарка пра ліквідацыю беларускай філалогіі на тым жа ўніверсітэце.

Падобна, у катэгорыі планаў, якія неабавязкова павінны здзейсніцца, гаварылася пра фінансаванне дзяржаўнымі ўстановамі метадычных дарадчыкаў у паветах і гмінах.

Больш канкрэтна прагучаў запіс пра выданне новага адукацыйнага часопіса для школ і падручніка па гісторыі беларусаў Падляшша. Конкурс на падручнік будзе распісаны ў 2015 годзе. У дакуменце апынуўся таксама важны запіс, дзякуючы якому прадстаўнікі ад беларускіх арганізацый будуць уплываць на выбар дырэктара (гэта датычыць школ, дзе ідзе навучанне беларускай мовы). Пакуль такая роля даручаная Аб'яднанню АБ-БА.

Наяўнасць стратэгіі вызначае маніторынг беларускай асветы. Гэта дазволіць хутчэй рэагаваць на парушэнні закона і адмоўныя з'явы, якія да гэтай пары былі па-за ўсякім кантролем. Прыкладова, ніхто не адказваў за стан, калі ў школе замест трох, навучалі адну гадзіну ў тыдзень. Раз у год прадстаўнікі ўрада абавязаны сустракацца з беларусамі, каб ацаніць вынікі працы дакумента. Яго формула будзе мадыфікаваная згодна з духам часу.

Старшыня Аб'яднання АБ-БА Барбара Пякарская шкадуе, што не ўсе прапановы апынуліся ў стратэгіі — хоць бы адкрыццё Цэнтра культуры і беларускай адукацыі ў Беластоку. Але і так яна задаволеная выпрацаванымі вынікамі. Дакумент рэальна вызначае дарогу для беларускага школьніцтва ў еўрапейскай прасторы. Не менш яе цешыць ангажаванасць настаўнікаў і грамадскіх дзеячаў. Іх ангажаванасць паказвае, што беларускае школьніцтва мае сваю будучыню.

Андрэй Сцепанюк, які ад пачатку ўдзельнічаў у стварэнні дакумента, а яго роля тут неацэнная і грунтоўная, адзначыў, што стратэгія — гэта не гутарка пра канкрэтныя грошы, ці іх раздзел у гмінах. Тут асноўны сістэмны запіс, а беларуская асвета — гэта адзін з элементаў польскай адукацыйнай сістэмы. Таму наяўнасць стратэгіі рэальна мацуе беларускае школьніцтва. Яна дазволіць не толькі нам шырэй развівацца, але і захаваць прынамсі тую колькасць навучэнцаў, якая існуе на сённяшні дзень.

*(больш падрабязна ў наступным нумары)*

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**



Злева: Гражына Плошайска (МНА), Дабеслаў Жэмянеўскі (МАіЛ), Юзэф Ружаньскі (МАіЛ), Мацей Тэфэльскі, упаўнаважаны падляшскага ваяводы



Злева: Радаслаў Дамброўскі (журналіст радыё „Рацыя"), Марэк Мартынюк (бельскае стараства), Анатоль Вап (Маршалкоўская ўправа ў Беластоку)



# Шагалы і хадакі

Сярод алімпійскіх жарсцяў з іх бітвай за медалі і забароны экспарту карункавай ніжняй бялізны асаблівай тэмай нашай інфармацыйнай прасторы мінулага тыдня сталася эскапада амбасадара Ізраіля ў Беларусі Іосіфа Шагала. У інтэрв'ю тэлеканалу RTVI, так папулярнаму сярод беларускай інтэлігенцыі (бо прыстойнаму чалавеку сярод агульнадаступных тэлеканалаў праз кабельную сетку і паглядзець няма чаго!) гэты суб'ект наўпрост ляпнуў, што ў Беларусі няма ніякіх палітычных зняволеных. Маўляў, тыя, хто зараз за кратамі і каго называюць у Беларусі палітычнымі вязнямі, звычайныя крымінальнікі, больш таго — яны падобныя на палесцінскіх тэрарыстаў і гаварыць тут больш няма пра што. Сказанае слова за хвост не зловіш. Альбо амбасадар слаба ўяўляў аўдыторыю тэлеканала, альбо канчаткова запісаўся ў апалагеты „стабільна справядлівай сістэмы РБ". Рэакцыя з боку беларускай грамадзянскай і палітычнай супольнасці не прымусіла доўга чакаць. Найперш натуральна абурыліся былыя палітвязні і сваякі тых, хто пакутуе за кратамі зараз. Некаторыя з іх наўпрост назвалі гэтага адыёзнага дыпламата „мудаком", на што, безумоўна, мелі поўнае маральнае права. Інтэрнэтная супольнасць таксама выбухнула слоўнымі кулямётнымі чэргамі па афіцыйнай асобе „зямлі абяцанай" з рэдкай для беларусаў нянавісцю. Бурлівыя эмоцыі і зласлівыя каментары інтэрнаўтаў таксама зразумець можна — настолькі сапраўды агідным было выказванне гэтага Шагала.

Але далей іншых пайшлі ў прамым і пераносным сэнсе некалькі беларускіх палітыкаў. Людзі ўсе з імёнамі, пераважна з ліку былых кандыдатаў у прэзідэнты, выправіліся на сустрэчу з гэтым Шагалам. „Няйначай, паставіць яго на месца", — падумалася адразу. Заўсёды ж хочацца верыць у лепшае.

Для тых, хто чуе пра гэтага другога Шагала ў нашай гісторыі ўпершыню, скажу спачатку пра яго асобу. Насамрэч ніякі ён не Шагал, а Восіп Шчогалеў. Пагадзіцеся, нешта не зусім адэкватнае ёсць ужо ў гэтым — браць сваім псеўданімам знакамітае чужое імя. Нарадзіўся ў Азербайджане і паспяхова рабіў там савецкую журналісцкую кар'еру. Пакуль сахаравы і шчаранскія змагаліся з несправядлівасцю сістэмы, шчогалевы верна ёй служылі. Потым у 1990-м Шагал выехаў у Ізраіль. З'яўляецца крэатурай бадай найбольш адыёзнага і скандальнага палітыка Ізраіля Авігдора Лібермана, таксама выхадца з былога СССР, якога цэлы час вінавацяць у карупцыі. Менавіта з чынным удзелам Шчогалева былі паспяхова афармлены азербайджанска-ізраільскія гешэфты. За гэта Шчогалеў-Шагал быў узнагароджаны азербайджанскім дынастычным узурпатарам Ільхамам Аліевым адмысловым ордэнам, а неўзабаве шэф Ліберман прасунуў яго на пасаду амбасадара ў Беларусі. Ужо першае інтэрв'ю Іосіфа Шагала выразна паказала, якой пазіцыі будзе трымацца новы амбасадар Ізраіля ў Беларусі. Вось бы нашым кіраўнікам апазіцыйных структур тады пайсці да яго і выказаці свае пазіцыі. Але ж прамаўчалі. Ну а зараз, калі ніхто з іх маўчаць ужо не меў ніякага права, скіраваліся ў будынак пад зоркай Давіда. Што ж у выніку — можа яны закліналі амбасадара неадкладна падаць у адстаўку, можа прымусілі яго скласці свае афіцыйныя прабачэнні? Не туды тое. Фактычна хадакі выступілі ў ролі гэткіх „адбельвальнікаў" нашкодзіўшага Шагала, сталі ратаваць яго рэпутацыю, памагаць „захаваць твар". Гэты ж Шчогалеў-Шагал сваімі выказваннямі, прычым неаднаразовымі, апусціўся на той ровень, куды прыстойны палітык не мусіць апускацца. Заява амбасадара да гэтага не дэзавуяваная, прабачэнні не складзеныя. З каментароў хадакоў мы пачулі дзіцячае лепятанне — маўляў амбасадар будзе „клапаціцца пра дэмакратызацыю Беларусі".

Да гонару беларускіх апазіцыйных кіраўнікоў, не ўсе яны пайшлі з „чалабітнай". Кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька, сам былы палітвязень, заняў прынцыповую пазіцыю. Адназначна цвёрда выказаліся Станіслаў Шушкевіч і палітычны эмігрант Андрэй Санікаў. Пры ўмове адзінай паслядоўнай пазіцыі і звароту да кіраўніка ўраду Ізраіля Біньяміна Нетаньяху быў шанц дамагчыся нават адстаўкі прыспешніка, але талерантныя хадакі ўжо наладзілі з ім „канструктыўны дыялог".

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Самасейкі



Не выклікае сумненняў тое, што дурняў не сеюць, яны самі нараджаюцца. Але мяне ўсё яшчэ турбуе пытанне, чаму гэтае самасейнае пустазелле буяе так пышна ў кожным народзе. Вось жа, у большасці краін Еўропы агулам людзі з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй паступова адпавядаюць недавучанай часткі грамадства. Нягледзячы на гэта, аб дурноце, або разумовым замуленні нацый можна гаварыць ад світання да захаду і ўсю ноч да світання наступнага дня. І не сказалі б усяго. Ці гэта значыць, што глупства ў свеце мае тэндэнцыю да росту?

Няма ніводнага народа, які б не валок за сабой вялізнага мяха ганебнай спадчыны: мінулых жахаў, саромных параз і перамог па трупах. Нямала там месціцца і гістарычных закамянеласцей: напыхлівасці — невуцтва, крывадушнасці — баязлівасці, працавітасці — хітрасці. Інакш кажучы, тых асаблівасцей, якія складаюцца на шматпакаленневую характарыстыку грамадстваў. І іх статыстычных адзінак. Але гэтак жа, як ні адзін народ не свабодны ад балваноў, паклёпнікаў, хлусоў і іншых блудадзеяў, так і няма чалавека кампетэнтнага ва ўсіх абласцях ведаў. Хто скажа, з вялікай упэўненасцю, што ведае ўсе, ён проста дурань. А калі хтосьці пляце кашалі, будучы ўпэўненым, што гаворыць адны мудрасці, дык яшчэ можна спадзявацца, што на канец пукне сабе ў галаву і адкрыюцца яму такія веды, якіх першым крокам з'яўляецца пакора перад прасторамі ўласнага невуцтва. Лепш позна, чым ніколі. Хоць лепш не адкладваць.

Даследаванні, якія ў мінулым годзе правёў іспанскі фонд BBVA у 11 краінах: дзесяці Еўрасаюза і адзінаццатай — ЗША, паказваюць, што вялікая частка рэспандэнтаў абапірае свае «правільныя» веды на меркаваныя факты, высмактаныя з пальца інфармацыі ці заявы невукаў яшчэ большых, чым яны самі. Напрыклад, 48% палякаў лічыць, што першыя людзі жылі ў той жа час, што і дыназаўры, а 53% — што звычайныя памідоры не маюць генаў — гены могуць мець толькі генетычна мадыфікаваныя памідоры! Але няма ніякіх прычын, каб смяяцца з палякаў. Падобныя, хоць і не ідэнтычныя, але і не вельмі адрозныя вынікі былі атрыманы з даследаванняў, праведзеных на рэпрэзентатыўных групах 1500 рэспандэнтаў у кожнай абследаванай краіне. На думку даследнікаў, высокі ўзровень ведаў паказвае 36,7% еўрапейцаў, амерыканцаў — 43,4% і 25,9% — палякаў. У адрозненне ад гэтага, нізкі ўзровень ведаў быў паказаны ў 11,3% еўрапейцаў, у 6,1% амерыканцаў і аж у 13,6% палякаў. Толькі на сярэднім узроўні палякі апярэджваюць іншыя нацыі не толькі на галаву, але на на хвост. Ды гэта не падстава для славы.

Ці гэты вынік апытання з'яўляецца простым адлюстраваннем польскай асветы і вышэйшай адукацыі? У любым выпадку, нешта павінна быць праўдай, што ў сусветным рэйтынгу вышэйшых школ, гэтыя польскія нават і найлепш ацэненыя, дрэйфуюць бліжэй чым далей да дна. А як гэта з беластоцкімі вучэльнямі? Скажу так: лепш не гаварыць. Хоць у апошні час нешта ў гэтым пытанні дрыгнула. Толькі што ў процілеглым кірунку. Некаторыя беластоцкія вучэльні амаль пагружаны ўжо ў іле на дне. Беластоцкі ўніверсітэт хоча ліквідаваць кафедру філасофіі. Па гэтым пытанні выліта ўжо мора слоў, таму я не буду больш дасольваць задумшчыкам гэтай канцэпцыі. Ім і так, напэўна, і салёна, і горка. І ў канцы дурна. Толькі, што яшчэ дурней — я не сумняваюся — адчуюць сябе рэдактары медыцынскага часопіса «Progress in Health Sciences» («Прагрэс у галіне медыцынскіх навук»), якога выдаўцом з'яўляецца Медыцынскі ўніверсітэт у Беластоку. Вось артыкул апублікаваны ў гэтым часопісе наконт неўралагічных ускладненняў пасля прышчэпак аказаўся навукова баламутным. А наколькі пытанне аб абавязковасці імунізацыі з'яўляецца ў апошні час грамадска важкім, тэзісы беластоцкіх навукоўцаў сустрэліся з нездаровай цікаўнасцю — асабліва бацькоў, якія прытрымліваюцца моднай у апошні час, але непацверджанай надзейнымі даследаваннямі тэорыі аб тым, што ранняя прышчэпкі дзяцей могуць стаць прычынай аўтызму. Пераважная большасць даследчыкаў не бачыць прычыннай сувязі паміж адным і другім. Акрамя таго, яны перасцерагаюць ад адмаўлення ад вакцынацыі, якая ўхіляе ад смяротных вірусных захворванняў дзяцей. Тым не менш беластоцкія навукоўцы ведаюць лепш. А лепш ведаюць не таму, што правялі адпаведныя і верагодныя даследаванні, а таму, што... лепш ведаюць. Вось, такія самасейкі.

**Міраслаў ГРЫКА**



### Вачыма еўрапейца

# Польскі інстытут — ПАДЛЯШША

Польскія інстытуты раскіданыя па ўсім свеце, хаця ў асноўным у Еўропе. Іх больш за дваццаць. Падлягаюць яны міністру замежных спраў. Маюць статус дыпламатычных прадстаўніцтваў. Іх задача — шырока разуметая культурная прамоцыя Польшчы і дапамога ў наладжванні культурнага супрацоўніцтва. Польскі інстытут у Мінску быў створаны ў лютым 1994 года, а 8 лютага 2014 г. яго дэлегацыя з сямі чалавек, з новай дырэктаркай Уршуляй Дарашэўскай і яе намеснікам Тамашом Адамскім, была госцем Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. Госці сустрэліся з кіраўніцтвам Музея сельскай гаспадаркі ў Цеханоўцы. Тут планавалі магчымасці для супрацоўніцтва музея з установамі культуры з раёна Мінска і цэнтральнай ды ўсходняй частак Беларусі. Акрамя таго наведалі, між іншым, мастацкую галерэю «Арсенал» і сустрэліся ў беластоцкай ратушы з дырэктарамі (так ваяводскіх, як і гарадскіх) устаноў культуры. Згодна з афіцыйным камюніке, апублікаваным пасля сустрэчы ў МУПВ, «перамовы і дыскусіі прынеслі плён у многіх ідэях для сумеснай дзейнасці і абмену кантактамі». У сядзібе Маршалкоўскай управы сарганізавана была сустрэча дэлегацыі з прадстаўнікамі лакальнага самакіравання, якія на працягу многіх гадоў супрацоўнічаюць з Беларуссю, у тым ліку з Бельска-Падляшскага, Сямятыч, Гайнаўкі, Міхалова, Орлі і Нараўкі. Пазней у тым жа паведамленні МУПВ можна было прачытаць: «Прадметам абрад былі магчымасці развіцця супрацоўніцтва, дасягненні да гэтай пары і патэнцыйныя абшары для далейшага ўзаемнага супрацоўніцтва». У ходзе сустрэчы падляшскі віцэ-маршалак Яцак Пярунак сказаў: «Польскі інстытут у Мінску мае, між іншым, служыць Польшчы, польскім дзяржаўным установам, значыць, таксама мясцоваму самакіраванню: ваяводскаму, старостствам, установам гмін і гарадоў у развіванні культурнай дзейнасці паміж Польшчай і Беларуссю (...). Мы дзейнічаем у ваяводстве, дзейнічаем у краіне, дзейнічаем у Еўропе, і мы хочам адыграць актыўную ролю ў нашага бліжэйшага суседа, Беларусі. Аднак, гэта нясе шмат праблем — і палітычнага, і тэхнічнага характару, і не хапае інфармацыі. Гэты інстытут мае быць дарадчыкам, мае дапамагаць нам у штораз лепшым развіцці культурнай дзейнасці нашага ваяводства ў Беларусі, нашых культурных устаноў і нашых творцаў, мастакоў, аніматараў».

Тамаш Адамскі заўважыў: «Польскі інстытут у Мінску праводзіць вельмі шырокую дзейнасць. Наша задача заключаецца ў тым, што мы хочам паказаць у Беларусі колькі можам зрабіць разам, ацяпляючы імідж Польшчы пры дапамозе цікавых культурных, навуковых, адукацыйных праектаў. Вельмі розныя галіны культуры ўключаюць тыя праекты: ад тэатра да фільма, мастацкія выставы. Мы робім шмат праектаў, звязаных з маладзёжнай, класічнай, народнай музыкай». Падкрэсліў: «Мы прыбылі на Падляшша, каб выглядаць цікавых задум, праектаў, што рэалізуюцца мясцовымі культурнымі ўстановамі. Мы прыехалі, каб паказаць нашым партнёрам з Падляшша, што можна яшчэ цікавага рабіць на польскім баку для супрацоўніцтва з Беларуссю, што цікавага можна зрабіць з беларускага боку, каб палепшыць гэтае супрацоўніцтва.

Сярод прыкладаў магчымых сумесных мерапрыемстваў з'явіліся: прэзентацыя ў Беларусі праекта ад Бельска-Падляшскага датычнага даследаванняў у галіне традыцыйных народных ручнікоў з рэгіёна Падляшша, выстава якога знаходзіцца ў Бельскай ратушы, магчымасць гастроляў на Падляшшы (форма ўзнагароды) пераможцаў конкурсаў, прасоўванне польскай музыкі ў музычных школах у Беларусі, прэзентацыя збораў з Саколкі датычных польскіх татараў, перадача ведаў і вопыту ў галіне кіравання культурай, запрасіўшы каардынатараў ці менеджараў культуры з Польшчы, каб дапамагчы беларускім партнёрам, а таксама арганізуючы іх сустрэчы са студэнтамі.

Прысутная на сустрэчы намесніца прэзідэнта Беластока Рэната Пшыгодзкая пры нагодзе абвясціла, што ў сёлетнім другім выданні фестывалю «Усход культуры — іншае вымярэнне» асноўная ўвага будзе нададзена ў першую чаргу Беларусі. Пасля завяршэння сустрэчы войт Арлянскай гміны Пётр Сэлвесюк у інтэрв'ю Радыё Рацыя сказаў: «Яны хочуць не толькі папулярызаваць тое, што ёсць польскае ў Беларусі, але таксама паказваць як функцыянуюць у нас беларускія гміны, каб паказваць добры прыклад для Беларусі. Напрыклад, ёсць тут двухмоўныя дарожныя ўказальнікі. Паказаць пазітыўную, добрую практыку, не толькі з Польшчы, але і з Заходняй Еўропы».

Канчатковыя вынікі падляшскага візіту дэлегацыі Польскага інстытута ў Мінску будуць вядомыя яшчэ сёлета.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Разьба і жывапіс у Гайнаўскім белмузеі

**У рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва» ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы былі арганізаваны дзве мастацкія выставы — разьбярства Міхала Коца з Гайнаўкі і жывапісу Цімафея Ціханюка з Койлаў. Міхал Коц па прафесіі — слесар і зваршчык. Разьбой стаў займацца многа гадоў таму, перайшоўшы на пенсію па інваліднасці. Цімафей Ціханюк — працаваў у сельскай гаспадарцы ў Зубаве і Койлах. Рысаваць і маляваць пачаў з дзяцінства, у бежанстве ў Расіі.**

### Народны разьбяр Міхал Коц

— Мяне захапіла скульптура Уладзіміра Навумюка, якую я ўбачыў на выставе ў Беластоку. Калі я пачаў займацца разьбой, нават хацеў з'ездзіць у Канюкі і папрасіць Навумюка, каб падвучыў мяне разьбярству, але так і не сабраўся ў падарожжа. Сам вучыўся разьбярыць, але так, як Навумюк, захапіўся народным стылем і найбольш ахвотна выконваю постаці, — пачаў распавядаць Міхал Коц. — Стаў я вырэзваць постаці рознай велічыні, розных прафесій. Людскія істоты надалей з'яўляюцца галоўнай тэмай маёй мастацкай працы, ванне жывых людзей. У мяне працы не паўтараюцца, — гаварыў Міхал Коц.

Мастак займаецца разьбой з 2000 года. Спачатку свае працы раздаваў, пасля стаў прадаваць турыстам. Яго работы знаходзяцца ў галерэі ў комплексе «Сяло Буды» ў Будах.

Міхал Коц нарадзіўся ў 1950 годзе ў Гайнаўцы. Яго сям'я родам з Радзілаўкі пад Мельнікам. Найчасцей яго працы — гэта класічная скульптура: адзіночныя фігуры або шматфігурныя кампазіцыі. Выконвае таксама рэльефныя карціны. Разьба Міхала Коца — паліхромная, часам ра-

Постаці прамянеюць цяплом і спакоем, а разьба і яе змест зразумелыя ўсім. Дзякуючы гэтаму творчасць Міхала Коца з'яўляецца натуральнай супрацьвагай сучаснаму мастацтву, абстрактнаму, напоўненаму своеасаблівым цывілізацыйным багажом, — дае ацэнку спецыяліст па мастацтве ў Гайнаўскім белмузеі Агнешка Ціханюк.

Скульптуры Міхала Коца знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Польшчы і за мяжой. У Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі разьбяр двойчы атрымліваў першыя ўзнагароды і тры разы займаў другія месцы. Персанальная выстава прац Міхала Коца ладзілася ў Гайнаўскім белмузеі ў 2004 годзе. Яго працы паказваліся на адным з мастацкіх аглядаў у Беластоку.

### Народны жывапісец Цімафей Ціханюк

Цімафей Ціханюк нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Зубава Бельскай гміны, дзе правёў моладасць. У 1933 годзе пераехаў у Койлы Чыжоўскай гміны, ажаніўшыся з Анастасіяй Бенедычук і жыў там да смерці ў 1976 годзе. Рысаваць і маляваць пачаў вучыцца ў час бежанства ад праваслаўнага святара, айца Івана Пятровіча ў Арэхаве ў Расіі. Спачатку ён капіраваў тое, што маляваў бацюшка, а пасля пачаў маляваць тое, што бачыў вакол сябе. Вярнуўшыся з бежанства Цімафей Ціханюк прадаўжае рысаваць і маляваць гістарычныя сюжэты

ваць народныя легенды або біблейскія сюжэты. Маляваў макаткі з народнымі матывамі, аздабляў хаты звонку і ўсярэдзіне, між іншым маляваў на сценах і падлогах. У наваколлі дзесяткі дамоў былі аздоблены яго арнаментамі. Маляваў абразы святых, размалёўваў царкоўныя харугвы. Яго іконы можна ўбачыць у капліцы св. Аляксея ў Койлах і ў навакольных цэрквах. Нягледзячы на складанасці, дзядуля Цімоша прабаваў свае сілы ў *глыбокай вадзе*, дасылаў свае працы на конкурсы, адкуль атрымліваў узнагароды і вылучэнні. Свае работы паказваў таксама на выставах.

Невядома колькі хат на Гайнаўшчыне яшчэ аздоблены малюнкамі Цімафея Ціханюка. Дом у Койлах быў ім раней вельмі багата аздоблены. Зараз мала што з гэтага захавалася.

— Цімафей Ціханюк — мастак-аматар, звязаны з народным мастацтвам. Самародны талент, адкрыты і належна ацэнены даследчыкамі ў пяцідзесятыя гады, а пасля смерці забыты. Маляваў у свабодныя ад працы на раллі хвіліны, хаця часта бывала наадварот, суседзі падмянялі яго ў палявых працах, каб ён мог намаляваць карціну на конкурс або выставу. Творчасць Цімафея Ціханюка гэта не толькі капіраванне вядомых карцін або матываў. Маляваў ён з натуры тое, што бачаць вочы, чаго быў сведкам: працу людзей, краявід і яго змены, месцы, якія любіў. Маляваў таксама з памяці. Яго



Міхал Коц побач сваёй разьбы на выставе ў белмузеі



— Найвышэй ацэненая праца майго дзядулі Цімафея гэта прэзентаваная на выставе алейная работа «Напалеон пад Масквой», — кажа ўнук мастака Тамаш Ціханюк

Міхал Коц з дзяцінства хацеў працаваць у драўніне і збіраўся паступіць у сталярскі клас Гайнаўскага прафтэхвучылішча. З-за вялікай колькасці ахвотных не быў прыняты і стаў вучыцца ў слесарскім класе. Пасля працаваў у гайнаўскіх прадпрыемствах — слесарам у кааператыве «Чын», слесарам і зваршчыкам у Прадпрыемстве сухой перагонкі драўніны (г.зв. *Хімічнай*) і пазней у дрэваапрацоўчым прадпрыемстве «Фурнель».

— Па прычыне хваробы сэрца я перайшоў на пенсію па інваліднасці і толькі тады стаў пастаянна займацца разьбярствам. Паколькі пенсія была невялікая, я стаў працаваць вартаўніком у будаўнічым прадпрыемстве, якое будавала шпіталь і жылыя блокі. Пазней я працаваў сторажам у прыватным прадпрыемстве. Побач нагляду за маёмасцю, якую я ахоўваў, у вольны час на працы і дома стаў я займацца разьбой. Гэта было прадаўжэннем маёй працы ў драўніне, бо раней я самастойна зрабіў такарны станок для апрацоўкі дрэва і стаў выконваць драўляныя вырабы на продаж. Вырэзваў мэблю, рабіў кветнікі, жырандолі, а ў вольны час шукаў у Белавежскай пушчы цікавае карэнне, якое апрацоўваў. Пачынаў я ад прыкладнога мастацтва, каб пасля перайсці да разьбярства. Паспрабаваў выканаць зброю, але капіраванне нескладаных вырабаў мяне не цікавіла. Калі я выконваю постаці, бачу ў іх адлюстра-

боты пакрытыя пратравай, але здараюцца працы ў натуральным колеры драўніны.

— На Гайнаўскі агляд непрафесійнага мастацтва я выконваў разьбу з прадуманымі тэмамі. Напрыклад, зрабіў постаці праваслаўнага і каталіцкага святароў, якія асвячаюць публічнае памяшканне. Выканаў разьбу сабак з ланцугамі ў падтрымку ініцыятывы супраць здзеку над сабакамі. Зрабіў я вясельных бяседнікаў, спасылаючыся на «Вясельную бяседу», ладжаную ў гайнаўскім амфітэатры, — расказваў Міхал Коц. — Аднак найчасцей выконваю ў драўніне постаці розных прафесій, праз якія таксама перадаю нейкія эмоцыі. Зрабіў я постаці, якія працуюць у сельскай гаспадарцы або прыехалі на рынак прадаваць сваю прадукцыю. Выконваў постаці каваля, лясного працаўніка, слесара ці зваршчыка. Найчасцей вырэзваю ў ліпе, але працую таксама ў бярозе, таполі. Да разьбярства пачаў я прывучаць майго ўнука Лукаша Гайдучэню. Яго працы паказваліся побач маіх работ на выставе ў Гайнаўскім белмузеі. Зараз ён многа часу праводзіць з камп'ютарам і не хапае ў яго цярплівасці доўга працаваць з долатам у руках.

— Скульптура Міхала Коца ўпісваецца ў канон народнага стылю, для якога характэрны сімвалізм постацей, прымітывізм кампазіцыі і дэкаратыўнасць. Яго працы добрыя і радасныя, а экспрэсіі ім дадаюць жывыя колеры і дакладная праца над тварамі.

і тое, што бачыць вакол сябе — знішчэнне пасля вяртання ў Зубава. Цімафей Ціханюк вучыўся ў падставовай школе ў Расіі і Польшчы, а з-за неабходнасці займацца на гаспадарцы не паступіў у гімназію. Аднак у дзённіках пісаў, што кніжка была яго сябрам. Ён многа чытаў, здабываючы веды па гісторыі і геаграфіі, цікавіўся астраноміяй, медыцынай і іншымі галінамі навукі. Рысаваў і маляваў у Зубаве і ў час вайсковай службы ў Войску Польскім, многа прац паўстала ў Койлах.

— Дзядуля Цімафей быў начытанай асобай. У пачатку II сусветнай вайны стаў карэспандэнтам беларускай газеты «Зара», што выдавалася ў Брэсце, пасля вайны пісаў у газету «Gromada — Rolnik Polski», а з 1956 года стаў адным з першых карэспандэнтаў беларускага тыднёвіка «Ніва», адразу пасля яго заснавання. Пісаў таксама апавяданні і апісваў гісторыі са свайго жыцця, якія дасылаў на конкурсы. Малюнкі публікаваў у тыднёвіку «Вёска», дзе яго мастацкія працы заўважыў даследчык непрафесійнага мастацтва прафесар Аляксандр Яцкоўскі, які заахвочваў да шырэйшага прэзентавання яго творчасці. У дзядулі Цімафея была душа рамантыка. Аднак яго жыццё не склалася так, як ён хацеў. Не было яму дадзена вучыцца ў школах, — кажа дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, унук Цімафея Ціханюка. — Дзядуля любіў маляваць батальныя сцэны, ілюстра-

карціны, так як яго вершы і дзённікі, перапоўнены тугою па тым, што мінула і аднача-
сова напоўнены надзеяй і цікаўнасцю будучыні. Карціны, гэта яго асабісты спосаб перажывання. Пачынаючы з бацькаўскае хаты, праз вайну, вобразы бежанства, чарговую вайну і на сельскагаспадарчай працы ў часы ПНР завяршыўшы. У працах Цімафея Ціханюка не пабачым «чыстага» краявіду, прырода выступае заўсёды ў суправаджэнні чалавека. Калі гаварыць пра форму, у некаторых працах крыху нязручная, але да фанатызму верны падрабязнасцям. У яго працах ёсць лінейная перспектыва, дзякуючы чаму плоскі малюнак здаецца быць трохмерным і гэта запазычанасць ад прафесійнага мастацтва. Падборка колераў таксама звяртае ўвагу. Гэта не яскравыя кірмашовыя барвы, а падабраныя з вялікім чуццём раўнавагі. Святлацені дадаткова фармуюць кожную працу, — напісала Агнешка Ціханюк у выдадзеным белмузеем буклеце.

Працы Цімафея Ціханюка паказваліся на мастацкіх выставах у пяцідзесятых гадах у Варшаве і Беластоку, а ў XXI стагоддзі прэзентаваліся на экспазіцыях у Гайнаўскім доме культуры і ў Гайнаўскім белмузеі. Зараз яго работы знаходзяцца ў Польшчы і за мяжой, напрыклад у ЗША, Канадзе. На выставе прэзентаванай у белмузеі знаходзяцца работы з калекцый унукаў Цімафея Ціханюка.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Васількаўская дэмаграфія

Ад 22 студзеня гэтага года Васількаў налічвае 10 тысяч жыхароў! У канцы 2011 года пражывала ў ім 9 911 чалавек. Гараджан пакрысе прыбывала і прыбывала. Варта прыгадаць, што ў 1980 годзе ў мястэчку пражывала 6 207 асоб, у тым ліку 3 231 жанчына і 2 976 мужчын. Стогадовых старажылаў не было. У 1990 годзе ў Васількаве было запісаных каля 7 тысяч жыхароў. Ад таго часу кожны год прыбывала па 100, а то і па 200 асоб.

У Васількаўскай гміне (Беластоцкі павет) нараджаецца больш дзяцей чым бывае пахаванняў. Напрыклад, у 2011 годзе нарадзілася 196 дзяцей і памерлі 99 асоб. Да Васількаўскай гміны належыць васемнаццаць мясцовасцей. Васількаў — горад. Найбольшай вёскай з'яўляюцца Студзянкі, у якой цяпер пражывае звыш тысячы чалавек. Студзянкі лідзіравалі і ў 1980 годзе — яны налічвалі 938 жыхароў.

Вялікія і сярэднія вёскі ў гміне гэта Навадворцы, Сахоні і Юроўцы (у іх па больш чым 600 жыхароў у кожнай) ды Дамброўкі (450), Рыбнікі (250), Асовічы (230), Вулька-Прадмесце (155), Селяхоўскія (140), Варашылы (75), Гараднянка (60) і Катрынка (40). Варта дадаць, што ў Варашылах і ў Селяхоўскіх яшчэ і цяпер жывуць асобы, якія маюць прозвішча Селяхоўскі ці Варашыла.

Як цікавінку падаем, што зараз найменшым пасяленнем у Васількаўскай гміне з'яўляецца Засцянак (калёнія, хутар) — тут усяго тры асобы. У Запечках пражывае 19 чалавек, у Мастку — 17 і ў Ажынніку — 12. Засцянак — назва ад часткі зямлі, якая заставалася пры валочнай памеры па-за межамі вёскі ды межамі суседніх вёсак. У Запечках даўным-даўно будавалі печы, каб у іх гнаць смалу або вырабляць паташ. Назвы Масток — ад малога мастка і Ажыннік — ад зарасніку ажын.

## Дэмаграфія Беластока

У 2013 годзе ЗАГС у Беластоку зарэгістраваў 5 890 нованароджаных дзяцей. Гэта на 84 менш чымсьці ў 2012 годзе. У гэтым ліку ёсць 475 дзяцей з-па-за Беластока, між іншым, з Беластоцкага павета, у якім няма раддомаў.

Цікавінкай з'яўляецца тое, што ЗАГС выпісвае ўсё больш пасведчанняў аб нараджэнні дзяцей бацькоў, якія жывуць без шлюбу. У 2013 годзе было іх 700.

Беласток знаходзіцца на дэмаграфічным плюсе. Дзяцей пастаянных жыхароў гэтага горада нарадзілася 2 729. У мінулым годзе было 2 305 пахаванняў.

У 2013 годзе ў беластоцкім ЗАГСе зарэгістравалі 1 636 шлюбаў, у тым ліку 603 грамадзянскія шлюбы, 873 — канкардатавыя і 160 — транскрыпцыйныя, — паінфармаваў Мечыслаў Мэйсак, кіраўнік ЗАГСа ў Беластоку.

Якія імёны найчасцей давалі бацькі сваім нованароджаным дзецям?

У мінулым годзе імя Аляксандра было найбольш папулярным сярод жаночых імён (атрымалі яго 148 дзяўчынак), затым Лена (118), Ганна і Зося (па 110) ды Вікторыя і Юлія (па 103). Для хлопчыкаў выбіралі імёны Якуб (157 разоў), Міхал (126), Ян (103), Сымон (93), Пётр (83) ды Антон і Адам (па 75).

Пару гадоў таму бацькі выбіралі дзецям вось такія імёны: Ангеліна, Ніколя, Кэвін, Сандра. Але вось зноў цікавінка. Першае ў 2014 годзе народжанае пасля поўначы дзіця — хлопчык атрымаў імя... Оляф.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

Наша статыстыка

# Міхалова ў 2013 годзе

У Міхалоўскай гміне (Беластоцкі павет) пражывае 6 886 чалавек у 69 мясцовасцях. Дагэтуль была яшчэ адна мясцовасць — Калітнік, але яна адышла ў нябыт. Гміна на дэмаграфічным мінусе. У 2013 годзе нарадзілася 49 дзяцей ды памерлі 122 асобы. На працягу года лік жыхароў паменшаў на 73 асобы. Ні адно дзіця не нарадзілася ў 52 мясцовасцях. Найбольш людзей памерла ў Міхалове, Ялоўцы, Новай Волі, Шымках, Кабылянцы і ў Навасадах.

Цяпер у Міхалове пражывае 3 204 асобы. У мінулым годзе ў горадзе нарадзілася 23 дзяцей ды памерлі 36 чалавек. Бацькі сваім нованароджаным дзецям давалі імёны: дзяўчынкам найчасцей Амэлія і Мая ды Агата, Аляксандра і Лена, а хлопчыкам — Пётр (найчасцей), Аляксандр, Габрыель, Якуб і Матэвуш.

Найбольшымі вёскамі ў Міхалоўскай гміне з'яўляюцца Новая Воля — 305 жыхароў, Бандары — 256, Ялоўка — 247 (у гэтай вёсцы памерлі 20 чалавек), Шымкі — 204, Навасады — 169, Казімерова — 156, Тапаляны — 148, Жэдня — 136, Саколе — 135, Геранімова — 131, Юшкаў Груд — 127, Кабылянка — 107, Цісоўка — 87, Мастаўляны-Калёнія — 75, Пянькі — 74, Леўшы — 69, Бахуры і Масціска — па-роўну па 64, Азяблы — 62, Баршчэва — 59, Залешаны — 58, Патока — 56, Ціванюкі і Тыльвіца — па 50 жыхароў.

А вось дэмаграфічныя цікавінкі: як было раней і як ёсць цяпер, як змяншаецца лік вясковага насельніцтва. У Навасадах у 1950 годзе пражывала 521 асоба, у 1990 годзе было 257 навасадцаў, а цяпер ёсць 169. У мінулым годзе тут памерлі чатыры асобы.

Новаая Воля ў 1950 годзе налічвала 588 чалавек, у 1990 годзе — 371, а ў 2011 годзе — 312, а зараз — 305. У мінулым годзе памерла шэсць асоб.

У вёсцы Бахуры ў 1960 годзе пражывала 218 чалавек, у 1990 годзе — 97, а ў мінулым годзе — 64. У Бяндзюзе ў 1980 годзе жылі 93 асобы, у 1995 годзе — 77, цяпер — усяго 29.

Хто б мог падумаць, што ў 1950 годзе ў Цісоўцы было ажно 410 жыхароў, а цяпер толькі 87. У Дублянах у 1950 годзе было 110 жыхароў, а зараз іх усяго... 14.

Цяжка сабе ўявіць Ялоўку ў амаль 800 жыхароў у 1950 годзе, у якой зараз — 247 чалавек. У 2013 годзе тут памерлі дванаццаць асоб. Нарадзілася двое дзяцей.

Лявонавічы налічвалі 308 жыхароў (!), а цяпер іх усяго 43 (у 2009 годзе — 52 жыхары). У мінулым годзе тут памерлі тры асобы. Народзін не было.

З Новай Луплянкі ў 295 асоб засталося... 30 (у 2009 годзе — было яшчэ 36 чалавек, у 2011 годзе — 34). У 2013 годзе памерла адна асоба. Народзін не было.

У Гозьнай пражывала нават 170 асоб, але ўжо ў 2009 годзе — 30, у 2011 годзе — 26 і ў мінулым годзе — 24. Апошнім часам тут нарадзілася адно дзіця і памерла адна асоба.

Цяпер толькі адзін чалавек жыве ў вёсцы Буды. Па двух жыхароў маюць Бярэзіна, Новыя Кухмы і Такароўшчына, па трох — Ганчары і Курылы, па чатырох — Крукоўшчына і Старыя Кухмы, пяць — Пулько, па шэсць — Раманава і Сахаркі, па сем — Займа і Гарбачы, дзевяць — Майдан, па дзесяць — Калясное і Кавалёвы Груд, па дванаццаць — Кухмы-Коцы і Кухмы-Петрукі, трынаццаць — Юльянка, чатырнаццаць — Дубляны ды па пятнаццаць — Супруны і Тыльвіца-Калёнія. У гэтых вёсках няма хрэсьбінаў, толькі пахаванні. Яны ціха паміраюць. Як у адной з песень: «А людзі ўсё адыходзяць, адыходзяць і не вяртаюцца...» Вось такая дэмаграфія на нашай гэтак званай Усходняй сціяне.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Дэмаграфія Гайнаўскай гміны

Зараз у Гайнаўскай гміне пражывае 4 124 чалавек. З ліку ўсіх 37 мясцовасцей да найбольшых вёсак належаць Дубіны (795 асоб), Арэшкава (376), Старое Беразова (328), Новае Беразова (275), Ліпіны (272), Навасады (268), Махнатае (206), Новае Корніна (180), Пасечнікі-Вялікія (120), Барысаўка (112), Дубічы-Асочныя (105), Хітрая (96). Чыжыкі (94), Рэпіска (82), Трывежа (78), Пасталова (74), Пуціска (72), Катоўка (71) і Сарочая Ножка (49).

Самыя малыя пасяленні гэта Будылясныя (4 жыхары), Галяковая Шыя (6), Дубінская Ферма (8), Сахарэва (15), Скрыплева (16), Пераходы (20), Чарлёнка-Лясная (21), Лазіцы (24), Альховая Кладка і Смаляны Садок (па 25) — паінфармавала Вольга Нічыпарук, інспектар ЗАГСа.

У параўнанні да 2012 года лік жыхароў паменшыўся ў Навасадах (на 22 асобы), у Дубінах (на 14), у Арэшкаве і ў Пасечніках-Вялікіх (на 8 у кожнай з вёсак ), у Бельшчыне (на 7), у Тапіле (на 6), у Хітрай і ў Пасталове (на 5 у кожнай з іх), у Барку, у Новым Корніне, у Старым Беразове і ў Катоўцы (на 4 у гэтых чатырох вёсках), у Дубічах-Асочных і ў Пуцісках (на 3 у кожнай), у Барысаўцы, у Савіным Грудзе, Сарочай Ножцы, Рэпісках і ў Сахарэве (ва ўсіх там на 2 асобы) ды ў Ліпінах і ў Пуцісках (на 1 у кожнай вёсцы).

Лік жыхароў павялічыўся ў Чыжыках (на 4 асобы), у Трывежы (на 3) і ў Альховай Кладцы (на 2).

У 2013 годзе дзевяць пар атрымала медалі „За шматгадовае шлюбнае сужыццё", якія прысвоіў ім прэзідэнт РП. Мужчыны ажаніліся пераважна з маладзейшымі ад сябе жанчынамі на пару гадоў.

У мінулым годзе ў Ганаўскай гміне нарадзілася 29 дзяцей і памерла 78 асоб. Нованароджаным дзецям бацькі давалі імёны Вікторыя, Юлія, Анна і Малгажата (дзяўчынкам) ды Якуб, Міхал, Адам, Пётр і Ян (хлопчыкам).

**(яц)**

# Кот для здароўя

Гэтыя хатнія жывёлы вельмі добра адчуваюць сваіх гаспадароў. Яны ўлоўліваюць нават нязначныя змены энергетычнага патэнцыялу на целе чалавека, якія ўзнікаюць пры хваробе, кладуцца на балючае месца і забіраюць негатыўную энергію, у выніку чаго адбываецца вылячэнне. Па такім жа прынцыпе каты дапамагаюць папярэдзіць развіццё многіх захворванняў. Гэтых жывёл можна назваць «спецыялістамі» па захворваннях страўнікава-кішачнага шляху. Лячэбны эфект узнікае дзякуючы мурлыканню — гэта нішто іншае як вібратэрапія, гэта значыць лячэнне гукавымі ваганнямі. Хвалі частатой ад 20 да 50 герц, якімі мурлыкаюць каты, спрыяюць павышэнню ахоўных сіл арганізму, паскарэнню гаення ран і зрошчванню пераломаў, росту і ўмацаванню касцяной тканкі. Каты дапамагаюць пры сардэчна-сасудзістых захворваннях — нармалізуюць ціск, спрыяюць аднаўленню здароўя ў постінфарктны і постінсультны перыяд, лечаць неўралгіі, менструальныя болі, нервовыя і псіхічныя хваробы... Калі кот прыйшоў да вас — паслабцеся і паспрабуйце ўсталяваць з ім кантакт. Абавязкова гладзьце яго — гэта таксама тэрапія, да таго ж прыемная самому кату. Дакрananне да зараджанай статычнай электрычнасцю шэрсткі — фізіятэрапеўтычнае ўздзеянне на вашу скуру. Станоўчая эмоцыі ад зносін з «братамі меншымі» — магутны гаючы сродак!

**(лук)**



Фота: www.dubicze-cerkiewne.pl

# Стогадовы юбілей

У нядзелю 2 лютага Аляксандра Кендысь, жыхарка вёскі Круглае Дубіцкай гміны, адзначыла з сямейнікамі стогадовы юбілей. Юбілярка зараз знаходзіцца ў Гайнаўскай прышпітальнай даглядальна-апякунскай установе. З нагоды народзін войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі разам з кіраўнікамі ЗАГСа Вольгай Рэпка (справа) і Гміннай сацыяльнай дапамогі Марыяй Петрычук наведалі Аляксандру Кендысь, уручылі ёй букет кветак і падарунак ды перадалі юбілярцы віншавальныя лісты прэм'ер-міністра Данальда Туска і падляшскага ваяводы Мацея Жыўны. Да віншаванняў далучыліся працаўнікі Дубіцкай гміны з войтам Лявонам Малашэўскім на чале і пажадалі бабулі... 200 год!!!

Юбілярка дачакалася двое дзетак — сына і дачку, чатырнаццаць унукаў ды дзевятнаццаць праўнукаў.

**(ус)**

# Адышоў сябра беларусаў



У чацвер 13 лютага 2014 г. у Варшаве, ва ўзросце 74 гадоў, памёр Збігнеў Рамашэўскі — легенда антыкамуністычнага руху, стваральнік падпольнага радыё «Салідарнасць», шматразовы сенатар і віцэ-маршалак сената. Апошнія гады быў звязаны з партыяй „Закон і Справядлівасць".

— Спадар Рамашэўскі — сцвярджае Яўген Вапа — гэта той чалавек, з таго палітычнага класа, які, нягледзячы на розныя мовы, на розныя змены вектараў, заўсёды быў верны аднаму важнаму крэда — дапамагаць людзям у бядзе, незалежна ад іх поглядаў, перакананняў ці веравызнання. Актыўна ўключыўся ў пабудову Камітэта абароны рабочых, потым, у час падполля, стварыў незалежнае радыё, якое было новым і цікавым промнем у дзейнасці „Салідарнасці". Таксама важнае, што пасля змены ўлады, пасля выбараў 89-га года, ён застаўся надалей, супольна з жонкай, такім самым цёплым чалавекам. Менавіта калі выбухнула справа „Нівы", калі абвінавацілі „Ніву" ў нейкіх прыдуманых злачынствах, менавіта спадар Рамашэўскі супольна з жонкай сярод першых выступілі ў нашу абарону, асабіста прыязджалі на нашыя суды і абаранялі нашае добрае імя, калі пабачылі ў чым справа. Дапамагалі ўсебакова, цікавіліся, між іншым дзякуючы іх ангажаванасці мы выйгралі працэс „Нівы". Таксама варта згадаць, што калі мы адбудоўвалі Беларускае Радыё Рацыя, то менавіта спадар Рамашэўскі супольна з жонкай вельмі спрыялі гэтай ініцыятыве, яны заўсёды былі нашымі прыхільнікамі і нашымі добрымі пасланцамі гэтай ідэі. Таксама і ў справах Беларусі гэта быў чалавек, які заўсёды прынцыпова выступаў за правы чалавека ў Беларусі, за кожнага палітзняволенага. І таму, калі прыйшла вестка пра смерць, перадусім чалавека, сенатара, заслужанага дзеяча для Польшчы, для польска-беларускага ўзаемазразумення, то гэта адыходзіць чалавек вялікай адказнасці за тую частку Еўропы, у якой мы знаходзімся. Вечная яму памяць!

— Гэта вялікая для нас страта. Адышоў палітык, які быў заангажаваны ў дапамогу беларусам у Польшчы і дапамогу для Беларусі. Ён падтрымаў нас, калі адбываўся працэс Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва"," — успамінае Збігнева Рамашэўскага старшыня Беларускага гістарычнага таварыства **Алег Латышонак**. — Мала людзей нам дапамагае на свеце. А на спадара Рамашэўскага мы маглі спадзявацца ў сітуацыі, калі мы адчувалі сябе як асяроддзе закінутымі. Ён пры нас быў. Маю на ўвазе працэс Праграмнай рады „Нівы". Такое не забываецца.

— „Маральнасць у палітыцы" — гэты прынцып заўсёды суправаджаў дзейнасць **Збігнева Рамашэўскага**, — кажа **Андрэй Пачобут**. — Незалежна ад таго, датычыла гэта польскіх спраў, справаў палякаў у Беларусі ці беларускіх справаў. Ён быў вельмі прынцыповы — кажа гарадзенскі журналіст: — Вышэй за ўсё ён ставіў маральнасць. Гэта чалавек, які ў савецкія часы змагаўся, зведаў пераслед. І нават не баяўся ў сённяшняй Польшчы пайсці насуперак грамадскаму меркаванню. Ён не пад публіку граў, а вельмі маральна падыходзіў да ацэнкі сітуацыі, падзеяў і асоб. Ён быў вялікім сябрам і Беларусі, і палякаў, якія тут жывуць. Я думаю, такога палітыка будзе не хапаць Польшчы і нам таксама.

— Гэта палітык, які з маладосці быў змагаром за праўду, за вялікія каштоўнасці. Ні хвіліны не вагаўся стаяць за гэтыя каштоўнасці і не зважаў ні на якую часовую кан'юнктуру, — кажа сябра аргкамітэту „Беларускага Руху" **Вінцук Вячорка**, які асабіста ведаў сенатара і нядаўна бачыўся з ім падчас назіранняў за выбарамі ў Грузіі.. — Гэта вельмі нечаканая і трагічная навіна, бо сенатар быў для мяне ўвасабленнем энергічнасці, быў лёгкі на пад'ём. Я, здаецца, зусім нядаўна бачыўся з ім, канкрэтна гэта было ў Грузіі падчас назірання за выбарамі, на якое ён з жонкай паехаў, прычым выязджаў у аддаленыя рэгіёны. А зусім нядаўна я бачыў яго ў тэлебачанні на Майдане, гэта значыць, што ён палічыў абсалютна абавязковым для сябе паехаць у тое месца, дзе так дарагія яму каштоўнасці свабоды і незалежнасці ў небяспецы і за іх трэба змагацца. І менавіта таму ён быў там, дзе ён быў у 70-ыя гады — у Камітэце абароны рабочых, і потым ён быў безумоўна адным з інтэлектуальных, маральных і фактычных лідараў „Салідарнасці", і ставіў сваю прафесію — ён прафесійны фізік — на службу справе праўды. Нездарма ён быў заснавальнікам радыё „Салідарнасць", і чым заслужыў і пашану ад усяго цэху свабодалюбівых радыёжурналістаў. І сачыў, сур'ёзна разбіраўся ў беларускай сітуацыі. І дзякуючы яму ў вялікай ступені польскі палітычны клас ужо ў дэмакратычнай Польшчы выбіраў бок дэмакратычнай, свабоднай Беларусі. Ён не мяняў сваіх поглядаў як бы не мянялася кан'юнктура стасоўна Беларусі, у тым жа Бруселі, ці калі-нікалі нават у Варшаве, заўсёды на яго ў гэтым сэнсе можна было разлічваць і спадзявацца. Вельмі светлая постаць, чалавек, які належыць да пакалення каштоўнасцей.

**На аснове Беларускага Радыё „Рацыя"**



Biuro Senatora
Zbigniewa Romaszewskiego

Warszawa, dnia 10 stycznia 2005 roku.

**Szanowny Pan**
**Eugeniusz Wappa**
Tygodnik „Niwa"
ul. Zamenhofa 27
15-959 Białystok

**Szanowny Panie Redaktorze!**

Pan Senator Zbigniew Romaszewski, zbulwersowany sytuacją, jaka wytworzyła się w Państwa wydawnictwie, po kontroli przeprowadzonej przez NIK, skierował do Ministra Sprawiedliwości Pana Andrzeja Kalwasa prośbę o objęcie nadzorem ministerialnym śledztwa, prowadzonego przez Prokuraturę Rejonową Białystok Południe, w sprawie Rady Programowej Tygodnika „Niwa". Pan Senator ma nadzieję, że zmieni to sposób traktowania sprawy przez lokalnego prokuratora. Przesyłamy w załączeniu list Pana Senatora Zbigniewa Romaszewskiego do Ministra Andrzeja Kalwasa.

Życzymy całej Redakcji wszystkiego najlepszego w Nowym Roku 2005 i prosimy o dalsze informacje.

Łączę wyrazy szacunku, asystentka
Senatora Zbigniewa Romaszewskiego

Beata Grzędzińska

Beata Grzędzińska

tel./fax: 0.22 / 625.24.65; email: biuro@romaszewski.pl

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя спачуванні
Спадарыням
**ЗОФІІ РАМАШЭЎСКАЙ**
**І АГНЕШЦЫ РАМАШЭЎСКАЙ-ГУЗЫ**
і іхнім блізкім
з прычыны напаткаўшага гора
**— смерці мужа і бацькі,**
**ЗБІГНЕВА**

перадае
**Праграмная Рада Тыднёвіка „Ніва"**
**і Беларускае Радыё „Рацыя"**

## Час на канкрэты...

Для чыгункі пачатак году аказаўся неласкавым. Паўплывалі на гэта студзеньскія маразы і снежныя мяцеліцы. Наступіў транспартны параліч. Пасажыры наракалі на шматгадзінныя спазненні цягнікоў ды брак належнай інфармацыі. Забурліла ў мас-медыях. Голас узяла адказная за чыгунку намесніца прэм'ер-міністра Альжбета Бянькоўская. Яе неразважлівыя словы, выказаныя ў TVN-24 „Соры, такі ў нас клімат", узбударажылі тэлегледачоў ды інтэрнаўтаў. Сваю асечку віцэ-прэм'ер паспрабавала змякчыць іншымі словамі: „Ведаю, што людзі могуць знесці многа, але пры ўмове, што атрымаюць належную інфармацыю наконт сітуацыі ў якой апынуліся. Я не змагла б сядзець спакойна дэзарыентаванай некалькі гадзін у цягніку пры тым, калі б замярзала ад холаду. Шалела б ад злосці". А што маюць сказаць пасажыры ў час неспрыяльнай зімы на прыпынках, не меўшыя даху над галавою?

Шмат крытычных заўваг у адрас чыгункі прад'явілі былыя прэм'ер-міністры Вальдэмар Паўляк і Юзаф Алексы, таксама прадстаўнік Ураўнаважанага транспартнага цэнтра на партале „Польсат Ньюс". У агульным падліку, усе хібы чыгункі зводзіліся да агульнага назоўніка: балаган і брак пашаны для кліента. Незадавальняючая арганізацыя працы, абмежаваны ды спавольнены рух цягнікоў, на кіраўнічых пасады прымаюць людзей без прафесіянальнай адукацыі, у асноўным пасля чыгуначнага тэхнікума. Інвестыцыйны працэс доўжыцца гадамі. Паводле прадстаўніка Ураўнаважанага транспартнага цэнтра Польшча ў Еўропе была піянерам у мадэрнізацыі чыгункі. Зараз ледзь цягнецца ў хвасціку. На яго думку будучыня айчыннай чыгункі, гэта суполкі ПЛК і Інтэрсіты. Рэгіянальныя перавозы не маюць рацыі быту. Нерэнтабельны перавозчык праглынае адно грошы падаткаплацельшчыкаў, не прыносячы карысці грамадству.

У сваім выступленні віцэ-прэм'ер Бяньkоўская гаварыла: „Я тут не дзеля таго, каб піярыць, а дзеля таго, каб працаваць. Не стану абіваць лёду ад тракцыйнай сеткі. Змагу аднак дабіцца ад суполак належнай інфармацыі і абслугі пасажыраў на самым высокім узроўні". Каб гэтыя словы не аказаліся адно пустой гамонкай. Час ужо на канкрэты! А адклікаць з пасады, за негаспадарнасць і хібы ў суполках трэба перадусім сапраўдных віноўнікаў, а па-мойму гэта адказныя кіраўнікі за арганізаванне пасажырскіх перавозаў у ваяводстве — дырэктар ПР і маршалак Маршалкоўскай управы.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Дапамагаем птушкам

У парку побач паркавых алеек на Плянтах у Беластоку ў пачатку зімы паставілі кармушкі для птушак, якія застаюцца ў нас на зіму, між іншым, амялушкам, аўсянкам, чыжам, сініцам, снегірам, совам і лясным канарэйкам.

Зімой ёсць нагода дапамагчы нашым крылатым сябрам. Дзеці і дарослыя памятайце аб гэтым. Птушкі найлепш любяць сланечнік, зерне проса і льну, крупы, ягады рабіны, шыпшыны і дзікай ружы, дробныя кусочкі сушанай агароднін ды кусочкі нясоленай саланіны і мяса, а таксама хлеба. Павінны быць дробныя кусочкі, каб птушкі не давіліся. Птушыныя сталовыя будуць стаяць у парках да канца красавіка гэтага года.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

## Беларусь!













Свята закаханых у апошні час набывае дадатковае значэнне. У гэты дзень можна прызнацца ў каханні, але і ў любові. Усё часцей заяўляем пра любоў да агульных чалавечых каштоўнасцей. У 2014 годзе фурор на інтэрнэтных сайтах выклікала акцыя „Люблю Беларусь”. Яе прыдумалі польскія сябры ў Катавіцах. Трэба было намаляваць сэрцайка на фоне бел-чырвона-белага сцяга і паказаць яго ў публічным месцы. Такія значкі паявіліся ў катавіцкіх аўтобусах, на прыпынках, на факультэце паланістыкі Ягелонскага ўніверсітэта. Вучні гімназіі ў вёсцы Твардажэчка (таксама ў Сілезскім ваяводстве) намалявалі для Беларусі свае сэрцы і паказалі іх у інтэрнэце. Акцыя „Люблю Беларусь” цягам усяго Свята закаханых асвятлялася на фейсбуку і набыла сусветны характар. Пра любоў да Беларусі заяўлялі шведы, амерыканцы, ды многія беларусы, якія апынуліся па-за межамі сваёй краіны. Шмат асоб, асабліва з Рэспублікі Беларусь, значок „Люблю Беларусь” паставіла на месца свайго профільнага здымка на фейсбуку. Нам прыемна адзначыць, што разам з грамадой, якая публічна прызналася ў любові да Беларусі, ды зычыла ёй свабоды і дэмакратычных перамен, былі закаранелыя сябры „Зоркі”.

ЗОРКА

Фота I Love Belarus

Ніна МАРЦІНОВІЧ,
*Лешукі, школа ў Нараўцы*

## Хатка

Ідзе вожык па зялёнай траве
Пытаецца яго жаба: — Дзе жывеш?
— Я жыву ў лесе пад вялікім грыбом
У маёй хаце многа чарвячкоў.

## Сябры

Я пайшла ў лес,
Тут два мухаморы,
А там лісічак пяць.
Выскачыў зайчык:
— Хадзі пагуляць.
Мы гулялі цэлы дзень
У розныя забавы і
Гаварылі пра розныя справы.

## Увага, конкурс!!!
### Загадкі з роднай хаткі (№ 8-14)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 2 сакавіка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1.**
Бяжыць і не спыняецца,
ніколі не стамляецца.
Р...

**2.**
Чараўніца да нас
завітала —
усё ажыло
заспявала.
В....

**3.**
Шустранькі,
Маленькі,
Сам у шэрай світцы
Шукае капелькі,
каб трохі пажывіцца.
В........

Адказ на загадкі № 5: Лёд, сняжынкі, снег, елка.
Узнагароды, пісьмовыя наборы, выйгралі Наталля Бабжыцкая з Бельска-Падляшскага, Юлія Чабан і Юлія Васілеўская з Міхалова. Віншуем!

## Вершы Віктара Шведа

### Як з такім сябраваць?

— А чаму ты, мой Вася,
Не сябруеш з Адасем?
— А ці сябраваць мы маем
З тым хто курыць, праклінае?

— Нельга сябраваць, вядома, —
Маці малкавала малому.
— Вось маму,
— сказаў сыночак, —
Сябраваць Адась не хоча.

### Зайздроснік

Цярпліва, над рачной вадою,
Вудзільшчык мучыцца з вудою.
Як не стараецца нябога,
Злавіць не можа ён нічога.

Прысеў на беразе хлапчына
І цягне рыбку праз хвіліну.
Вудзільшчык крыкнуў:
— Ты, смаркач,
Хатніх не вырашыў задач!

# Яблынькі

Вечар. На вокнах маты, а за імі, за сцяною, на вуліцы, на панадворку і ў садзе загуляла сняжынкамі мяцеліца. Аднекуль прыляцеў сіберны вецер. Бразнуў на двары веснічкамі, загрукатаў у шыбіны, штурхнуў у іх сняжком і завёў песню ў коміне.

Міша і яго сястрычка сядзяць ля печы і прыслухоўваюцца, як на дварэ спявае вецер. У пакоі так цёпла і ўтульна. Сястрычка чытае кніжку пра маладыя яблынькі. Побач, бліжэй ля печы, мурлыкае, заплюшчыўшы вочкі, кот Васілёк. Раптам Міша ўсхапіўся. Ці то кніжка сястрычкі аб яблыньках, ці лютуючая зіма ўстрывожылі яго. Ён разпораз прыслухоўваецца як чытае сястрычка, то зноў як злуецца за вокнамі вецер. У яго ж у садзе таксама маладзенькія яблынькі і яны не даюць яму спакою.

— Марылька, Марылька, а ці не пашкодзіць вецер нашым яблынькам? — пытае хлопчык.

— Што ты, — супакойвае яго Марылька. — Нашы яблынькі не баяцца ветру. Вопратка ж у іх такая цёплая, моцная...

Што за вопратка ў яблынек, Міша ведае. Увосень ён і дзядуля абвязалі яблынькі саломай шчыльнашчыльна, каб вецер іх не прадзьмуў.

А наверх яны нават лапак з елак нанасілі з лесу і ахуталі імі дрэўцы. Аднак Мішу непакоіць вецер. А вецер то налятаў, шумеў у галінах дрэў, то сціхаў, лёгка імі пагойдваючы. Міша хуценька накінуў паліто і шапку-вушанку і пабег на двор. З неба сыпаўся ўжо толькі дробненькі лёгкі сняжок, а сіберны вецер гнаў і гнаў яго, як лёгкі пыл, па белай роўнядзі саду. Ноч была месячная, і снег, што курыўся над садам, здаваўся кудзельным прадзівам. Да слыху Мішы дайшоў нейкі стук. Ён прыглядзеўся... У канцы агарода вецер біў штыкецінай, і яна лёгка пагойдвалася ў бакі.

„Трэба хутчэй забіць дзірку, — падумаў хлопчык і хуценька ўбег дахаты па малаток і цвікі. — А то, — успомніў Міша, — зайцы ў сад залезуць як пазалетась, і шкоды наробяць”.

Шумеў у галінах дрэў вецер, брaўся мароз, а хлопчык, не зважаючы на яго, узяўся за работу. Хутка ўсе штыкеціны былі прыбіты новымі цвікамі, а Міша ішоў дахаты. Месяц халодны, але ласкавы глядзеў на яго з вышыні, і здаецца, усміхаўся, а з боку падміргвала яму вясёлая зорка. У Мішы было лёгка на душы. Ці то ад таго, што стаяў пагодлівы вечар, ці таму, што яго яблынек не пашкодзяць зайцы, ці ад добра выкананай працы. Ён агледзеўся... У садзе стаялі заснежаныя яблынькі. Ствалы іх пакрыліся наледдзю і іскрыліся рознымі колерамі пры месячным святле, быццам вясёлкі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Як у Бяндзюзе здымалі фільм!

У 1985 годзе ў вёску Бяндзюга прыехала беларуская рэжысёрка Тамара Салaнeвіч. Разам з ёю быў кінааператар Мікалай Несцяровіч. Яны агледзелі мясціну і прыйшлі да высновы, што гэта чароўнае месца. Яно ідэальна надавалася для фільма пра жыццё і абрады беларусаў. Да ўдзелу ў фільме яны запрасілі мясцовых людзей — маладых і дарослых. Сярод герояў фільма апынулася мая мама, якая тады была дзяўчынкай.

Працавалі ў сонечныя дні і месячныя ночы, засёды на двары была цішыня. Фільм называўся „Нарваўскі трыпціх”, таму што яго здымалі блізка ракі Нарвы.

**Юліта ГРЫКА,**
**II клас Гімназіі ў Міхалове**

*Юліта ГРЫКА, Міхалова*

## *Птушкі*

*З далёкага падарожжа,*
*З цёплых краін*
*Вяртаюцца птушкі*
*У наш гай,*
*У Міхалова,*
*На родную старонку,*
*Над палі,сады*
*І азёры.*

## *Міхалова*

*Наша гміна Міхалова!*
*Тут заўсёды вясёла.*
*Тут у школу ідуць дзеці,*
*А час хуценька ідзе.*
*Ідуць вялікія і малыя,*
*З заплечнікамі,*
*З кніжкамі і сшыткамі.*



Юліта ГРЫКА з бабуляй

# Польска-беларуская крыжаванка № 8

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 4:

Вядро, кут, гара, Рым, хорам, мост, сэрца, брат, як, дар, яна. Варажба, сад, мэта, хор, госць, карта, ура, Ян, Тамарка.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі **Магда Рошчанка**, **Кацярына Лаўрашук**, **Зузанна Пятроўская**, **Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку, **Вікторыя Барэчка**, **Аня Бляўская**, **Магда Пташынская** з Нараўкі. Віншуем!



**Павел Марыюш БІРЫЦКІ**, *Семяноўка*

# Зніч

Быў прыгожы, снежаньскі ранак, калі Януш паехаў на вясковыя могілкі. Прычынай гэтага выезду было паведамленне аб самагубнай смерці Іаланты — ягонай першай сур'ёзнай каханай. Як яна выглядала, ён памятаў ужо як праз туман, але адчуваў у сэрцы вялікую пустэчу. Усю дарогу яго суправаджалі хвіліны з жыцця, якія правёў з дзяўчынай. А перш за ўсё баль з нагоды заканчэння шостага класа пачатковай школы.

— Ах, што гэта быў за баль! — падумаў пераходзячы могільнікавую браму.

Праз некалькі хвілін шукання, у канцы алейкі знайшоў яе магілу. Яна была ў форме сэрца, на адной палове было напісана яе імя і прозвішча, дата нараджэння і смерці. Калі Януш задумаўся, нечакана пачуў дзіўны шум, быццам бы хтосьці прабег каля яго з вялікай хуткасцю. Разглянуўся навакол сябе і вярнуўся да думак. Раптам пачуў, як хтосьці кліча яго па імені.

— Януш, Януш! — клікала яго таямнічая асоба

Глянуў у левы бок і ля ўваходу на алейку ўбачыў жанчыну ў белай сукні. Яму здалося, што яе ўжо бачыў раней. Падышоў бліжэй, а таямнічая асоба сказала:

— Не бойся, гэта я — Ёля.

Януш працёр вочы, таму што ён не верыў жанчыне. Ці гэта ж тая самая дзяўчына, у якую ён закахаўся? Раптоўна дух жанчыны змяніў тон голасу, калі пачаў знікаць у чорнай адтуліне.

— Прашу, прашу, памажы мне, — прашаптала, паказваючы на тое, што мужчына трымаў у руках.

Гэтым прадметам з'яўлялася фальгавая торба з маленькім знічом. Хутка выняў зніч і запалкі, якія былі ў ягонай кішэні, запаліў яго і паставіў на магіле. У гэты час пабачыў духа апошні раз. А той толькі сказаў:

— Вельмі дзякую, Янак, — і знік.

Ад гэтага часу Януш заходзіць штогод на могілкі, аднак ніякага духа ўжо ніколі не бачыў.

**Люба ХАРКЕВІЧ**, *Беласток*

# Роздумы на Дзяды

Так многа тут людзей, а такая цішыня.

Ніхто нічога не кажа, нікому нічога не баліць. Нічога не патрабуюць.

Няма вяселля і гасціннасці, няма таксама зайздрасці, мсціваці і нянавісці.

Так тут дастойна, сярод радоў крыжоў.

Чакаеце нас у маўчанні і нічога ад нас вам не трэба.

У наведваючых засталіся толькі ўспаміны, па тых блізкіх, найбліжэйшых і знаёмых.

Успаміны? О, не, яны розныя, як розныя ёсць і людзі!

Боль у сэрцы, сляза ў воку, свечка, зніч вялікі ці малы, пераважна штучныя кветкі — і гэта ўсё, што можам Вам падараваць.

Роздумы... Чаму было так, а не іначай. Так як мы хацелі і жадалі.

Гэта ўжо мінулае, незалежна ад шчырай ахвоты, нічога не адменіць лёс.

Адпачывайце, вялікія і малыя, маладыя і старыя, бо ж вам жыццё не шкадавала цяжару, болю, слёз.

Былі радасць, смех і раскоша, але яны не баляць.

Спеў, вецер і пошум дрэў. Розныя песні вецер вам спявае. Раз спакойныя і ціхія, то бурлівыя.

Чакайце нас. Мы да вас прыйдзем на вечнасць.

## Дэбют

**Аляксандра САСНОВА**, *Варшава*



# Уладзімірац-Васток II

Іван карыстаўся сваімі машынамі штораз менш. Час ад часу вазіў на скупку высушаныя ягонай жонкай зёлкі, часам наведваў знаёмых у іншых вёсках. Вялікіх кароў прадаў, а на іхняе месца, невядома адкуль, прыйшлі каты, якія ахвотна сядалі на Іванавым жываце, калі ён глядзеў тэлевізар. А страшна ён любіў сачыць за сусветнымі навінамі! Кожны дзень ад 17 гадзіны правяраў усе без разбору інфармацыйныя праграмы. Вядома, не толькі польскія, але таксама беларускія і расійскія. Каму давяраў больш, гэта ў гэтай гісторыі другараднае. Магу толькі дадаць, што Іван цаніў замежныя СМІ перш за ўсё таму, што паказвалі яны шмат людзей, якія любілі і цікавіліся сваёй зямлёй. Калі прыходзілі святы, багаслужбы перадавалі з Мінска і Масквы, і без выхаду ў царкву Іван быў удзельнікам духоўнай стравы. Дакладна — Іван цікавіўся светам далейшым і бліжэйшым. Гэты другі ён назіраў і кантраляваў за рулём свайго трактара, даволі ўжо панашанага. Машына была малапатрабавальнай і добра вяла сябе на нашых дарогах. Салярку Іван купляў ад беларускіх прадаўцоў, якія ўмелі прывозіць чорнае золата ў бочках і іншых сакрэтных месцах. Дзядзька вельмі любіў гэты гандаль і заўсёды браў саляркі больш, чым яму было трэба. І вось у яго гаражы быў запас паліва такі, як у сярэдняй аўтазаправачнай станцыі. Зараз ужо з цяжкасцю стрымліваўся, калі ў вёску прыязджалі яго знаёмыя і прапанавалі тавар. Рашыў, што перш за ўсё выкарыстае тое, што сабралася ў яго цягам гадоў. Іван пераліваў паліва з бочак у трактар і ездзіў з поля ў лес, з крамы ў хату, ад дачкі да сына, без вялікіх прыгод. Праўда, спыніла яго паліцыя, калі ехаў без святла, шмат разоў застраг, часам прабіў шыну. Нічога асаблівага. І сапраўды саляркі меншала.

На канец дзядзька Іван адчыніў апошнюю бочку, якая запыленая стаяла ў кутку. З поўным бакам пацягнуўся ў лес, пабачыць ці ён расце на сваім месцы — у ім шмат гадоў таму знайшоў ідэальныя сосны на сваю клуню. Ягоны трактар, магутны „Уладзімірац", не патрабаваў многа і пераважна цягнуў так як яго гаспадар — штораз памалей. У гэты раз Іван, аднак, адчуў рэзкую розніцу. Трактар працаваў хутчэй, штораз хутчэй.

— Зусім як віно спрацавала гэтае паліва праз гады! — засмяяўся Іван, хаця праз пару секунд усмешка перамянілася ў грымасу страху. З коміна паляцеў агонь і трактар набраў нечаканай скорасці на лясной дарозе, а затым у адну секунду ўзляцеў над дрэвамі. Так, я таксама ведаю, што ніколі на рынку не паявілася мадэль „Уладзімірца", які ўзлятае над сваім шафёрам. Некаторыя гавораць, што гэта някепская штучка, але ж славуты чырвоны дыназаўр падляшскіх дарог мае свае ліміты.

— А няхай! Прадалі мне ракетнае паліва! — вырашыў Іван і адначасна прабаваў на розныя спосабы абрытаць машыну і пераняць кантроль.

— Госпадзі, сахрані! САХРАНІ! Не дазволь, каб людзі смяяліся над маёю труной, калі ўжо згіну такой дурацкай смерцю! — узмаліўся Іван.

Тым часам трактар панізіў вышыню. Хацелася б сказаць, што гэта адбывалася памалу і што дзядзька Іван паспяхова пасадзіў сваю ракету, ды, на жаль, гэтак не было.

Машына абярнулася ў паветры, былі і сальта, і піруэты, ды рухнула з вышыні! Зусім як кот — на чатыры лапы, хаця чорная хмара акружыла трактар і пранікала ў насы збегшыся на месца людзей. Іван вылецеў з машыны і нічога не разумеў. Чорны смярдзючы дым ды людзі ў чорных акулярах з накіраванымі на яго „узі" не прадказвалі добрага. І Іван падумаў, што апынуўся ў пекле.

— Рукі ўверх! — крыкнуў адзін.

— Скажыце, добрыя людзі, — пачаў Іван, — куды я трапіў і што я зрабіў?

— Няўжэлі вы не знаеце, каму ў дажынках перашкодзілі? — азваўся голас і ў адзін момант паміж чорнымі агентамі стаў Аляксей Палашэнка. Ён усміхнуўся і агледаў трактар, а адзін з „чорных" праверыў, ці ў Івана няма небяспечных матэрыялаў.

— Вось вы мне шоў падрыхтавалі, Іван Мікітавіч! Вітаем у Жлобіне! — засмяяўся Аляксей.

— Дык што! Аляксей Палашэнка! Адкуль вы мяне ведаеце? — устрывожаны Іван не мог паверыць.

— Ха, ха, мае хлопцы высачылі вас 15 мінут таму. Раскажыце, як вы да гэтага дайшлі! Харашо, давайце!

І Аляксей узяў пад руку Івана і пайшлі аглядаць выступленні калектываў.

Ашаломлены Іван стаў першым таварышам беларускага прэзідэнта, які шчыра цікавіўся палётам. І калі дзядзька Іван прызнаўся, што паліва беларускае, прэзідэнт сказаў, што вышле сваіх хімікаў і прызнаўся, што ён жадаў бы, каб яго земляробы таксама маглі лятаць на сваіх трактарах. Беларускія людзі адчувалі б сваю ролю мацней і не агляддаліся б на іншых.

— Толькі падумайце, Іван Мікітавіч, як усе вылупяць вочы на нас! — марыў Аляксей і падкідваў мясныя прысмакі на Іванаву талерку.

Прэзідэнт пацікавіўся таксама ўраджаем на другім баку Белавежскай пушчы і распытваў пра рэзультаты сёлетняга жніва. Таксама ў Івана было шмат пытанняў адносна земляробства і беларускіх вынікаў. Дзядзька вельмі смела выказаў таксама свае палітычныя каментары і як вялікі прыхільнік прэзідэнта Фуфіна цікавіўся іхнімі суадносінамі.

— Знаеце, Іван Мікітавіч, паміж намі — як паміж звычайнымі суседзямі. Раз я пазычаю шклянку цукру, раз ён просіць у мяне мукі. Адзін аднаго абгаворваем, але калі сядзем удваях, то няма лепшай кампаніі. Ну, што як што, але Фуфін пазелянее, калі ўбачыць нашы авіятрактары.

— А як вы мяркуеце, у каго найлепшая зброя? На маю думку, у Расіі.

— На сваім падворку ўсе казакі, усе размахваюць лікамі ракет і салдат, быццам свіння хвастом, а праўда такая, што, гэта паміж намі, Іван, мая армія найлепшая. Аб гэтым не трэба гучна гаварыць, бо нам тое непатрэбна.

Мужчыны працягвалі размову над ядзернай зброяй, якой па прычыне міжнароднай бяспекі не маглі ім прывезці. Як адзначыў дзядзька Іван, гэта не быў проста абмен поглядамі, а сур'ёзная дыскусія, у якой паяўляліся канкрэтныя сумы доляраў і прозвішчы.

Дажынкавыя выступленні набліжаліся да завяршэння. На сцэну гаспадары горада запрасілі бацьку-Аляксея, які падвёў сёлетні сезон і турбаваўся, што не ўсё атрымалася паспяхова, а таксама выказаў спадзяванні на лепшае. На канец прывітаў ён Івана Мікітавіча з Падляшша, а на тэлебімах паказалі ягоны палёт на трактары. Улады падарылі дзядзьку Івану кош з падарункамі і ў ганаровым шэсці правялі яго пад ягоную „ракету". Прэзідэнт падзякаваў Івану за наведанне свята і запрасіў на наступны год.

— Спадар Аляксей, я так цешуся, што ўдалося мне вас спаткаць! Я буду ганарыцца гэтым да канца жыцця! — шчыра ўсхваляваны гаварыў Іван.

— І я таксама! Не забывайце, што гэта вы падкінулі нам цудоўную ідэю. Хаця за тое, што вы нелегальна перасеклі беларускую мяжу, я абавязаны вас арыштаваць, — зарагатаў Палашэнка. — На наступны раз не забудзьце пашпарта!

Іван абняў прэзідэнта. Сеў на трактар. Нейкі інжынер падказаў як завесці машыну, каб прызямліцца там дзе трэба. Іван паківаў галавою і хуценька „адпаліў" трактар, які бухнуў агнём, і паляцеў. Гэтая незвычайная карцінка аказалася гітом беларускага „ююба", а вячэрнія беларускія навіны на галоўным тэлеканале мелі рэкордную публіку.

У Іванавай вёсцы ніхто не паверыў бы ў такія гісторыі, калі б не тое, што ўсе бачылі тую інфармацыйную праграму на першым беларускім тэлеканале.

# Біяграфічнае мастацтва

У папярэднім маім матэрыяле было слоў пару папярэджання пра Пятра Семяненку. Народжаны на Каралеўскім шляху, не надта далёка ад Тыкоціна, дзвесце гадоў таму, 29 чэрвеня — у дзень свята апосталаў Пятра і Паўла, з праваслаўнага бацькі і пратэстанцкай маці, хлапец атрымлівае імя менавіта найпершага апостала. Дзе ён быў хрышчаны, даступныя мне даведнікі паведамляюць цьмяна, але магчыма, што падзея адбылася ў тыкоцінскай царкве, якая, як падае даведнік а. Рыгора і м. Антаніны Соснаў „w 1823 r. była już bez krzyża, w zakrystii znajdował się krzyż żelazny, duży z blaszkami z wieży spadły. Nie ma tam żadnego parafianina tego obrządku i tylko przychodzący lub emigranci do niey uczęszczali dawney na nabożeństwo”. Таму аўтары даволі стрымана адносяцца да аднаго з біяграмаў майго героя, дзе падаецца, што „przypadek sprawił, że został on ochrzczony w kościele rzymskokatolickim, prawdopodobnie w Tykocinie, ponieważ rodzice nie mogli znaleźć świątyni (a raczej duchownego) swego wyznania”. Царква ў Тыкоціне стаяла да 1833 года, калі яна была перанесена на могілкі ў недалёкія Саколы.



Пётр Семяненка



Інтэр’ер тыкоцінскага касцёла

Усё ж такі Пётр Семяненка пачатковую адукацыю атрымлівае ў каталіцкіх місіянераў з семінарыі ў Тыкоціне. Але трапіўшы ў Францыю, ён, як біблейскі Адам у раю, спакушаецца на смакаванне з дрэва пазнання дабра і зла. І, як пару дзесяткаў гадоў пазней Іосіф Сталін, былы выхаванак семінарыстаў, як падае Касцельная энцыклапедыя, „obracając się w atmosferze niewiary, został zupełnym niedowiarkiem. Zostaje czerwonym demokratą, pisuje do pism rewolucyjnych. Dokuczała mu przy tym ciężka bieda. W tym czasie zbliżył się doń Bohd. Jański i zbawiennie oddziałał na nawrócenie Piotra. Po spowiedzi odbytej 21 stycznia 1835 r., wydał Semeneńko otwarty list, w którym wyznaje swe winy, przeprasza przyjaciół i nieprzyjaciół za dane zgorszenia i wzywa wszystkich do Chrystusa”. У Пятра наступае такая перамена, якая калісь-калісь адбылася ў апостала Паўла. А яму ж яшчэ толькі дваццаць адзін год...

Калі Семяненка пазнаёміўся з Янскім — дакладна невядома. Затое вядома, што Янскі пазнаёміўся ў 1831 годзе з Адамам Міцкевічам, які ў той час быў ужо вельмі набожнай асобай; паступова такім жа станавіўся і Янскі, агітуючы палякаў да вяртання ў веру. Ён заснаваў апостальскую групу, мэтай якой было ўвядзенне хрысціянскіх прынцыпаў у штодзённае жыццё, асабліва ж супрацьстаўленне хрысціянскага сацыялізму хвалюючым еўрапейскае грамадства плыням сацыялізму „паганскага”. Да групы далучаецца і Пётр Семяненка, якога Янскі пасылае на тэалагічныя штудыі ў Рым. Семяненка завяршае навуку ў рымскай вучэльні ў 1841 годзе са званнем доктара тэалогіі, адначасна прымаючы святарскі сан.

У 1842 годзе Семяненку клічуць у Парыж для змагання з містыцызмам Тавянскага. Заснаваную Янскім групу называе Згуртаваннем уваскрэсення Гасподняга. Энцыклапедыя: „Pierwszem ich zatrudnieniem było oddawanie posług religijnych emigracji polskiej w Paryżu, a w Rzymie przyjezdnym Polakom. W Paryżu musieli zaraz w początkach i następnie przez długie lata walczyć z szerzącym się towjanizmem i powstrzymali jego postęp”.

Андрэй Тавянскі нарадзіўся ў 1799 годзе каля Вільні „z bogobojnych rodziców ze szlachty litewskiej”. Сямейны дом Тавянскіх быў месцам культу Напалеона і малады хлапец марыў пра тое, каб стацца яшчэ больш слаўным чым ягоны кумір. Андрэй хварэў на вочы і, паколькі меў клопат з бачаннем рэальнага свету, кідаўся ў візіянерскія мары. Касцельная энцыклапедыя: „Dążenia otaczających go kolegów, a nawet kapłanów widział, że od jego dążeń i pragnień zupełnie są inne; biorąc zaś za jedno życie katolików i kapłanów z życiem Kościoła, sądził, że obecny Kościół nie może dać tego czego dusza pragnie. I nie znalazłszy nigdzie świata swojego, poczuł się Towiański w niewłaściwem położeniu na świecie. Z każdym dniem utrwalał się w przekonaniu o wyjątkowem swem przeznaczeniu na ziemi i swym stosunku do Boga, a ztąd o rozszerzeniu swego posłannictwa nie tylko do ludu polskiego, ale i ludzkości całej, wreszcie o reformie religijnej, społecznej i politycznej świata całego”.

Дзеля вось гэтага збаўлення свету Тавянскі ў 1838 годзе выязджае ў замежжа, спыняючыся ў Парыжы. Там у 1841 годзе спатыкае Адама Міцкевіча, які апынуўся ў цяжкіх сямейных абставінах — захварэла ягоная жонка. Тавянскі, насуперак настаўленням лекараў, загадаў забраць яе з лячэбніцы. І яна акрыяла. З гэтай пары Міцкевіч становіцца шчырым прыхільнікам Тавянскага, прапагандыстам ягонай місіі: „Żakiem jestem przy nim. Od czasów Jezusa Chrystusa nie było na ziemi świętości w takiej zupełności i mocy”. Энцыклапедыя: „Przez całe półrocze 1844 r. starał się Mickiewicz w swych wykładach tłumaczyć, że przez ludy słowiańskie wielkie rzeczy Bóg działał, i że wszyscy, a szczególnie Francja, powinna odgadnąć wśród niej przebywającego męża Bożego. Za tego rodzaju wykłady odjęto Mickiewiczowi katedrę [славянскіх літаратур у Французскім каледжы ў Парыжы — А. В.]”. Неўзабаве Тавянскаму французскія ўлады загадваюць пакінуць краіну і ён едзе ў Рым, дзе прабуе спаткацца з папам. Але і Рым загадваюць яму пакінуць; Тавянскі выбывае ў Швейцарыю. Даведнікі не падаюць, наколькі гэтае выпіханне Тавянскага было заслугай Пятра Семяненкі і ягонага згуртавання Zmartwychwstańców...

Семяненка вылучаецца ў Рыме, ягоная выключная адоранасць выводзіць яго ў тамашнія вярхі і папа Пій IX назначае яго кансультарам Індэкса, а пасля членам найвышэйшай кангрэгацыі Свяшчэннай інквізіцыі.

Калі ўстаноўлены ў 1559 годзе Індэкс забароненых кніг усё буйнеў, а Кангрэгацыя інквізіцыі дапісвала да яго ўсё новыя забароненыя кнігі, таму дзеля вядзення яго была ўстаноўлена папам Піем V у 1571 годзе новая кангрэгацыя — Кангрэгацыя індэкса. Яе па сутнасці адзінай задачай быў разгляд кніг, прымеркаваных для забароны, праўкі або дазволу для чытання вернымі. Крамольныя кнігі траплялі ў адмысловы Індэкс забароненых кніг; першы такі спіс быў складзены ў 1559 годзе, а апошні, дванаццаты — у 1948 годзе. Падазроная кніга трапляла да аднаго з кансультараў, які яе ўважліва чытаў і запісваў месцы і старонкі, дзе быў нязгодны з касцельнымі палажэннямі фрагмент. Кансультор рэкамендаваў кардыналам, членам кангрэгацыі сваё меркаванне пра прадстаўленую для ацэнкі кнігу, а яны прымалі далейшыя рашэнні. Такім чынам кансультор быў абавязаны чытаць шматлікія матэрыялы з таго біблейскага дрэва пазнання дабра і зла, якія былі забаронены апошнім вернікам Касцёла. Праца на мяжы спакушэння паказваецца даволі цікавай.

Кангрэгацыя інквізіцыі павінна была пільнаваць, каб не распаўсюджваліся крамольныя кнігі ды іншыя такога ж характару выданні; у абодвух кангрэгацыях праца была даволі цёпленькай. Ды яшчэ Кангрэгацыя прапаганды веры прасіла ў нашага земляка меркаванняў наконт шматлікіх пытанняў візантыйскага абраду, якога ён таксама быў знатаком... Ягоныя пісьмовыя напрацоўкі мелі сакрэтны характар і таму былі абмежаваны да вельмі вузкага кола ватыканскай знаці. Пра іх вартасць можна меркаваць толькі ўскосна: папа Пій IX, прачытаўшы адну з прац Семяненкі, усклікнуў: „Я ведаў, што ён чалавек разумны, але не ўяўляў, што аж да такой ступені”.

Наш зямляк валодаў шматлікімі мовамі, у тым ліку французскай, італьянскай, нямецкай, лацінскай, грэчаскай, стараславянскай, да таго ж меў зоркі агляд акружаючай рэчаіснасці. У адным са сваіх казанняў гаварыў: „Synowie polscy, jak ongi synowie Noego, nie poradziwszy się Boga, zabierają się do odbudowania niebotycznego gmachu swojej Ojczyzny; ale się im niestety pomieszały języki, i sąsiad nie rozumie już sąsiada, brat brata nie rozumie; oni jednak na przekór chcą wciąż budować, więc cóż odniosą w korzyści? Coraz większe niepodobieństwo porozumienia się, coraz większe zamieszanie; i cała robota na tem się kończy, że już się między sobą i kłócą, i biją, a niedługo będą się między sobą rżnąć i zabijać. Nieszczęśliwy kto w tym tłumie się uwija! Błogosławiony kto z niego zawczasu się wyrwał, lub nigdy doń nie należał! Kto do Boga wrócił, i pod skrzydłami jego przybytków kryje swoje nadzieje i uczy się mądrości”.

Чарговы папа, Леў XIII, хацеў нават прысвоіць нашаму земляку званне кардынала, але гэтаму супрацівіліся расійскія дыпламаты ў Рыме, якія таксама зорка пільнавалі, каб выхадцы з Расійскай Імперыі не займелі ў Ватыкане важных пазіцый, каб мінімалізаваць іх уплыў на католікаў пад царскай уладай.

Пётр Семяненка выпрацаваў таксама арыгінальныя тэалагічныя канцэпцыі. Паводле яго ў пазнанні выступаюць тры кампаненты: аб’ект, суб’ект і сіла — святло розуму, якое яднае два першыя. Кожнае жыццё таксама складаецца гэтыя тры кампаненты. Чалавечае жыццё праходзіць у трох пластах: цела, розуму і волі... І ў гэтым месцы я пакарыстаюся парафразай біблейскай фразы, што кесарава кесару, а тэалагічнае — тэолагам...

Памёр Пётр Семяненка ў 1886 годзе ў Парыжы, пахавалі яго ў Рыме. Магчыма, што быў ён хрышчаны ў апусцелай тыкоцінскай уніяцкай царкве і — магчыма — што ён быў апошнім ахрышчаным там дзіцём, які, аднак, узрастаў пры тыкоцінскім касцёле. І лёс ягонай магчымай царкоўнай метрыкі, якая магла раздзяліць лёс тамашняй царквы, невядомы. Але ж метрыка была патрэбная чалавеку, а чалавеку, які свой шлях звязаў з Касцёлам, была патрэбная касцельная метрыка і яе, акурат патрэбную яму паперку, маглі паціху аформіць у аддаленым ад Тыкоціна Далістове...

Калі творы чалавечых рук ці розуму — разьбы, жывапісу ці літаратуры, тыя лепшыя — назваць мастацтвам, дык хіба справядліва назваць мастацтвам і такі твор чалавечай кемлівасці, якім з’яўляецца кар’ера. І ў гэтым ракурсе біяграфія нашага земляка з’яўляецца рарытэтным і высокакаратным творам паваротлівай віртуознасці.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Мова мастацтва Маргарыты Дмітрук

Абрыс пліты, кухоннай пасуднай шафы, дзед, які дрэмле на ўслончыку пад печкай. Далёкае дзяцінства, распушчанае ў белым, смяротным колеры. Рэфлексія моцнага, зімовага сну ў сонных Крынках.

Аўтарка мастацкага эксперыменту „Маргарыта Дмітрук, вуліца Пілсудскага 6, Крынкі" калісь завітала ў хату Лявона Тарасэвіча. Паехала туды за парадай ці варта ёй падаваць дакументы на паступленне ў акадэмію мастацтваў. Сёння Лявон і Маргарыта калегі па прафесіі. Разам прывіталі яны гасцей лютаўскага вернісажу ў Галерэі „Крынкі", зладжанага Фондам „Віла Сакратэс".

Спадарыня Маргарыта не збіралася гаварыць пра сябе ці каментаваць толькі што створаныя рысункі. Сваю сувязь з прысутнымі рашыла абмежаваць выключна да мовы мастацтва.

У даступным на вернісажы каталогу, прысвечаным мастачцы, чытаем, што нарадзілася яна роўна сорак гадоў таму ў Бельску-Падляшскім. Сур'ёзна займацца мастацтвам пачала ў 1993 г. на факультэце графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў у Мінску. Потым пераехала ў варшаўскую Акадэмію мастацтваў. Тут атрымала штат і дыплом доктара мастацтваў. Маргарыта займаецца графікай, жывапісам, тканінай, ілюстрацыяй і праектаваннем вопраткі. На сваім рахунку мае шматлікія ўзнагароды і выстаўкі ў самых лепшых галерэях Польшчы і Еўропы.

Яе творчасць сапраўды кранальная. Дзіцячая простымі, наіўнымі рысамі апавядае аб простых, людскіх справах. Прастата Маргарыты захапляльная і адназначная. Усё адбываецца ў бяспечнай прасторы бабулінага светапогляду — жыватворнай філасофіі вясковага чалавека.

Пакорлівасць, успрыманне болю, недаўгавечнасці, страты, аднастайнасці — гэта асноўны змест работ бельскай мастачкі.

Ці даспадобы гэта жыхарам правінцыяльных Крынак, ахвотным вырвацца з бяды мінулага, каб зраўняцца з сучасным спажывецтвам?

Лявон Крыштаповіч — паспяховы прадпрымальнік родам з Піражкоў присутнічае на ўсіх беларускіх мерапрыемствах, арганізаваных у Крынках. Выстаўка Маргарыты Дмітрук выклікала ў ім жывыя ўспаміны вясковага дзяцінства. „На самой справе так гэта было, — раскрываецца ён перад чытачамі нашага штотыднёвіка. — Бібліятэка таксама была. Месца прадстаўленых Маргарытай контураў беларускіх кніжак займалі рускія кніжкі з часоў бежанства. Найчасцей чыталіся ў хаце малітвасловы" — прызнаецца спадар Крыштаповіч.

Было, мінула беспаваротна. Спадар Крыштаповіч не здолеў зберагчы ў сваёй сучаснай хаце ніводнай дэталі тых часоў. Чаму? Ён не ў змозе гэтага растлумачыць.

Надта людна было ў крынскай галерэі ў час вернісажу. Сустрэцца з Маргарытай Дмітрук рашылі ў асноўным прыезджыя прыхільнікі яе таленту і сябры. Тут выстраіліся яны ў чаргу за аўтографам любімай мастачкі.

А спадарыня Маргарыта абяцала яшчэ вярнуцца ў Крынкі.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**





Маргарыта Дмітрук і Лявон Тарасэвіч






# www.kulyashou.ru

Сёлета 6 лютага споўнілася роўна сто гадоў з дня нараджэння слыннага беларускага паэта Аркадзя Куляшова. Цэлы час яго жыцця і творчасці прыйшоўся на савецкі перыяд, і яго можна з упэўненасцю назваць беларускім савецкім паэтам. І падчас свайго жыцця, і пасля смерці ён выдатна адпавядаў гэтаму часу ў ідэалагічным сэнсе. Таму яго імем называлі і называюць вуліцы і ўстановы. Прыкладам тут можа быць беларускі горад Магілёў — адміністрацыйны цэнтр рэгіёна, дзе нарадзіўся паэт. Тут імя Куляшова нададзена ўніверсітэту (колішняму педінстытуту) і адной з новых вуліц на ўскрайку горада. Але, нягледзячы на гэта, у Беларусі помнік паэту стаіць толькі на яго магіле ў Мінску. Думка аб увекавечанні памяці Аркадзя Куляшова калісьці, у верасні 2012 года, з'явілася ў магілёўскіх студэнтаў і яны нават выказалі яе колішняму паслу Беларусі ў Польшчы Паўлу Латушку, які тады ўжо ўзначальваў міністэрства культуры.

„Міністэрства культуры ініцыятыву стварэння помніка Аркадзю Куляшову адназначна падтрымае", — цытуе тагачасныя словы міністра сайт магілёўскай гарадской улады.

З таго часу прайшло паўтара года. Латушка мае новую пасаду — пасла Беларусі ў Францыі, але помніка Куляшову як не было нідзе, акрамя магілы, так і няма. Праўда, на памяць аб творчасці паэта такое становішча не ўплывае. Сведчаннем таму з'яўляецца сайт у інтэрнэце, які быў створаны, па ўсім відаць, без усялякага ўладнага ціску.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **http://kulyashou.ru**, то перад яго вачыма адкрыецца спакойнае бела-блакітнае выяўленне, дзе ў якасці назвы абраны імя і прозвішча паэта.

„Вітаем Вас на паэтычнай старонцы Аркадзя Куляшова", — звяртаюцца да наведвальнікаў сайта яго невядомыя стваральнікі і ўладальнікі. Ніжэй ідзе верш, пра аўтарства якога даведацца цяжка, бо няма подпісу. Толькі той, хто добра знаецца на беларускай літаратуры, здагадаецца, што верш належыць пяру іншага беларускага паэта Пімена Панчанкі. „Пад сонцам/ І пад небам перуновым/ Цяжэй нам без цябе пісаць і жыць.../ І кружыцца планета Куляшова,/ І песня пра Алесю ўсё звініць", — гэтыя словы нагадваюць нам шырокавядомую ў Беларусі песню „Алеся" на верш Аркадзя Куляшова „Бывай".

Сайт, прысвечаны жыццю і творчасці паэта, мае чатыры рубрыкі — „Жыццяпіс", „Вершы", „Бібліяграфія" ды „Рэцэнзіі і аналіз". Але паколькі інфармацыю на сайт ставяць аматары, то яны не надта клапоцяцца аб яго поўным насычэнні ёю. Так, старонкі „Жыццяпіс" і „Бібліяграфія" пустыя, і ўжо, пэўна, не адзін год. Гэта вялікі недахоп сайта і не ўпрыгожвае яго стваральнікаў, хай яны нікому і невядомыя.

У той жа час нельга сказаць, што сайт увогуле занядбаны. На ім сабраная вялікая колькасць вершаў Аркадзя Куляшова. Прычым яны падзелены па гадах, што аблягчае задачу тым, хто шукае твор паэта па даце.

У самым нізе галоўнай старонкі размешчаны так званыя „лепшыя вершы", якіх усяго адзінаццаць. Вызначаюцца вершы на „лепшасць" праз галасаванне да таго ці іншага тэксту пры яго прачытанні клікам на адпаведную зорачку.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Мовазнавец ад Бога

# 125 гадоў з дня нараджэння Міколы Байкова

Беларускі літаратуразнавец, мовазнавец, педагог Мікола Байкоў нарадзіўся 22 лютага 1889 г. у расійскім Бежацку (Цвярская губерня). Адукацыю ён атрымаў у Маскоўскай духоўнай акадэміі, якую скончыў у 1913 г. Выкладаў філасофскія і педагагічныя дысцыпліны ў Мінскай духоўнай семінарыі, у гімназіі і прыватных навучальных установах. З 1918 г. чытаў лекцыі ў Мінскім настаўніцкім інстытуце і на Мінскіх беларускіх настаўніцкіх курсах. З 1921 г. быў вучоным сакратаром Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, у 1922-1928 гг. — Слоўнікавай камісіі Інбелкульта, потым Інстытута мовазнаўства АН БССР. Быў рэдактарам часопісаў „Школа и культура Советской Белоруссии" (1919, 1921), з 1924 г. супрацоўнікам часопіса „Асвета".

Навуковец сярод многіх іншых быў арыштаваны ДПУ БССР 19 ліпеня 1930 г. па абвінавачванні ў прыналежнасці да „Саюза вызвалення Беларусі". Вызвалены 2 верасня 1930 г., але на акадэмічную працу вярнуцца яму ўжо не дазволілі. У час нямецкай акупацыі працаваў у Інспектараце беларускіх школ і ў Выдавецтве школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі ў Мінску. Улетку 1944 г. выехаў у Германію, працаваў у рэдакцыі часопіса „Малады змагар". Працаваў у прапагандысцкім бюро „Вінэта". Па некаторых звестках, арыштаваны савецкай ваеннай контрвыведкай „Смерш" у Берліне і перавезены ў Мінск, утрымліваўся ў мінскай турме. Далейшы лёс невядомы. Напэўна быў расстраляны ці закатаваны.

Мікола Байкоў, які пісаў таксама пад псеўданімам Крывіч Мікола, вядомы нам найперш як аўтар прац па літаратуразнаўстве, крытыцы і педагогіцы, як укладальнік вельмі грунтоўных слоўнікаў: „Практычны расійска-беларускі слоўнік" (1924, разам з Максімам Гарэцкім), „Беларуска-рускі слоўнік" (1925), „Расійска-беларускі слоўнік" (1928, абодва разам са Сцяпанам Некрашэвічам), „Практычны беларускі вайсковы слоўнік" (1927, разам з А. Бараноўскім). Байкоў таксама аўтар артыкулаў па педагогіцы, беларускай мове і літаратуры, у тым ліку „Паэма «Новая зямля», як манументальны твор беларускай паэзіі" (1923), „Месца Янкі Купалы ў беларускай літаратуры" (1928).

У наш час надзвычай каштоўны слоўнік Байкова-Некрашэвіча перавыдадзены і вярнуўся на паліцы ўсіх, хто любіць беларускае слова. У свой час, калі ў пачатку 1920-х гг. пачалася беларусізацыя, Інбелкульт даручыў працу па складанні слоўніка менавіта гэтым двум навукоўцам. Пры гэтым быў вызначаны прыблізны памер слоўніка — 30 тысяч расійскіх слоў. Аднак у працэсе працы высветлілася, што гэта занадта мала. У выніку Байкоў і Некрашэвіч уклалі слоўнік, змясціўшы ў ім пераклад звыш 60 тысяч расійскіх лексічных адзінак. Слоўнік гэты служыць найлепшым помнікам ягоным аўтарам, якія былі фізічна знішчаны злачыннай сталінскай сістэмай Савецкага Саюза. Застаецца таксама захапляцца тым, як Мікола Байкоў, вырасшы на глебе расійскай мовы, здолеў адчуць сутнасць нашай мовы і засвоіць яе глыбінныя пласты. Відаць, гэта сапраўды вялікі дар ад Бога.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя словы спачування шматгадоваму дырэктару бельскай „тройкі” спадару **Васілю Ляшчынскаму і Яго сям’і** з прычыны напаткаўшага Яго гора **— смерці жонкі Таццяны.**

Спадар дырэктар, мы ў гэтыя цяжкія хвіліны сэрцам і думкамі разам з Вамі.
Дырэкцыя, настаўнікі, працаўнікі, бацькі і вучні Комплексу школ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім.

## СПАЧУВАННІ

Шчырыя спачуванні спадару **ВАСІЛЮ ЛЯШЧЫНСКАМУ** і ягоным блізкім з прычыны напаткаўшага гора **— смерці жонкі Таццяны**,

передае Беларускі саюз у Польшчы

## СПАЧУВАННІ

Словы шчырага спачування спадару **ВАСІЛЮ ЛЯШЧЫНСКАМУ** з прычыны напаткаўшага гора **— смерці жонкі**,

передае ўправа і супрацоўнікі Польскага Радыё Беласток.

## СПАЧУВАННІ

Спадарству **Зве і Яраславу Келбашэўскім** словы глыбокага і шчырага спачування па прычыне смерці **Сына** выказваюць дырэкцыя, настаўнікі і вучні Комплексу школ з ДНБМ у Гайцнаўцы.

# Ляцім „пэкаэсам”

„Lecę PKS-em” — на нанова памаляваных аўтобусах фірмы са старой назвай „ПКС” (Дзяржаўны аўтамашынны транспарт — цяпер гэта прадпрыемства недзяржаўнае, хаця спрыватызаваная суполка падлягае мясцоваму самаўраду — Падляшскаму сейміку). Ваяводскае праўленне ПКС яшчэ ў 2012 годзе адмяніла некалькі маршрутаў на ўсходнюю, прыгранічную Беласточчыну, па прычыне нерэнтабельнасці рэйсаў. У 2013 аўтамабільная транспартная кампанія ў Беластоку адмяніла была між іншым аўтобусы па маршрутах Гарадок — Бабpоўнікі — Коматаўцы; Міхалова — Свіслачаны — Гарадок; Падазераны — Вейкі — Гарадок, а таксама праз Семяноўку ў Нараўку (раней гэты аўтобус даязджаў да Гайнаўкі, не працаваў у выхадныя дні і святы). Былі пратэсты? Мабыць, не ад пасажыраў, у большасці намоглых старэчаў, якім не дабрацца ў гміну ці ў сталіцу ваяводства да лекара, у КРУС ці ў іншых справах. „Памягчэлі” шантажаваныя гміны. Прадпрыемства патрабавала ўплаты ад іх грошай для таго, каб вярнуць маршруты. Першы „змякчэў” Гарадок. Наступнае — багатае Міхалова, якое мела з чаго заплаціць 100 тысяч для таго, каб жыхары маглі даехаць у Беласток. Нараўка таксама заплаціла 100 тысяч, каб неяк дабіраліся ў Беласток жыхары, у якіх няма свайго аўто. Ды не зусім вернены ранейшыя маршруты.

А як можна выбрацца са сталіцы Падляшша ў сталіцу Нараўчанскай гміны, адной з больших на Беласточчыне і ўзнагароджваных у Польшчы, між іншым, за экалагічныя мерапрыемствы? Выключна ў будні дзень. Вось так: з Беластока ў Нараўку: 15:10, у Нараўцы ён у 16:57, час: 1 гадзіна 47 хвілін, цана 17,50 зл. У выхадныя і святы, вядома, спалучэнняў няма. Шукаючы на сайце e-podroznik спалучэнняў з Семяноўкай, ці праз Гайнаўку, ці непасрэдэдна, чытаем: „няма такіх маршрутаў, або зміні назву аб’екта”. Паедзеш туды шляхам абмінаючым славутую Семяноўку з яе вадасховішчам, над якое прыязджае шмат турыстаў, вядомым ва ўсёй краіне. У будні дзень так можна дабрацца з Нараўкі ў Беласток: гадзіна 6:16 у Нараўцы, у Беластоку — у 8:07 (83 км, 1 гадз. 51 хвілін, цана білета: 17,50 зл.; маршрут: Нараўка, Гродзіск, Плянта, Новае Ляўкова, Старое Ляўкова, Лешукі, Міхнаўка, Новая Лука, Бандары, Багнюкі, Таніца-Ніжняя, хутар Юшкаў Груд, Сушча, Плянты, Новая Воля, Лесанка, Міхалова — рынак, Міхалова — вуліца Беластоцкая, Майдан, Какатова, Саколе, Саколе — вёска, Жэдня, Займа, Калодна — Вілы, Сабалева — Баброва, Сабалева — Маёўка, Сабалева — калёнія Грабоўка, Сабалева — Грабоўка-кругавая, Засценкі — царква, Беласток — Баранавіцкая, Беласток — Брaніцкага-Пястоўская, Беласток — Пілсудскага-Варынская, Беласток — аўтавакзал). Пасля поўдня — у 16: 57 — з дзвюма перасадкамі — сядаем у Нараўцы ў аўтобус маршрута Беласток — Гайнаўка, у Навасадах на Аўтазаправачнай станцыі мы ў 17:13, чакаем да 18:41 — перасадка на аўтобус Гайнаўка — Беласток (прыезд у Беласток у 20:00, цана 14,50 зл.). Або інакш: Нараўка — 16:57, сядаем у аўтобус Беласток — Гайнаўка, у Навасадах на Аўтазаправачнай станцыі мы ў 17:13, чакае да 17:49, сядаем у аўтобус Беласток — Гайнаўка, едзем адзін прыпынак да Дубін каля царквы, у 18:21 сядаем у аўтобус „Ваяжэр” Гайнаўка — Беласток (59 км, 2 гадз. 48 хвілін, цана 17,60 зл.). Ды час іначай ідзе на ўскраіне Белавежскай пушчы, а асабліва старэйшым жыхарам, якім, мабыць, няма чаго выбірацца ў свет.

ПКС рэкламуецца: „Прапануем найноўшыя рашэнні на глабальным узроўні: бесправадны доступ да інтэрнэту, кандыцыянер, рэгуляваныя сядзенні, відэа, газеты, купля прадуктаў харчавання — камфорт і сучаснасць. Маем сайт з пошукавымі выклікамі з дапамогай традыцыйных пошукавых сістэм або інтэрактыўных карт, куплю квіткоў у інтэрнэце... ПКС Беласток (аўтамабільная транспартная кампанія ў Беластоку) — польская кампанія, заснаваная ў 1945 годзе. Першапачаткова працавала як дзяржаўнае прадпрыемства, у цяперашні час працуе ў якасці публічнай кампаніі. Кампанія мае 186 аўтобусаў.

З 2009 года кампанія змяніла свой афіцыйны лагатып і рэкламны слоган на „Lecę PKS-em”. У дадатак да змен у маркетынгу кампанія стала аказваць паслугу групавых паездак на аўтобусе і запусціла міжгароднюю сетку з высокім стандартам аўтобус-экспрэсаў. Аўтобус-экспрэс уяўляе сабой сетку аўтобусных агульнапольскіх хуткіх маршрутаў. Сучасны аўтобусы флот цалкам абсталяваны для Вашага камфорту і са спецыяльна падабранай групай вопытных вадзіцеляў гарантуе бяспечны і плаўны транспарт”.

**Міра ЛУКША**

# Адгаданка

1. дакумент патрэбны для перасячэння граніцы ў Бабpоўніках, Кузніцы або Полаўцах, 2. прадмет гандлю, 3. нюхаўка, 4. месца культу з іканастасам, 5. маці Жыгімонта Аўгуста, 6. гістарычная „залатарунная” краіна на тэрыторыі Грузіі, 7. Калумбава „эўрыка”, 8. касавурыца на пятніцу, 9. вяроўка, 10. „прыдушаны” круг.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афрыканская пагаворка. **(ш)**




Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на адгаданку з 4 нумара

Білет, патоп, сезон, Вацлаў, ружа, язык, плён, чад, водар, яхта, Сапега, шах.

Рашэнне:

Не стаў ветразя па чужых наводках.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

# 23.02 — 01.03

**(22.03. — 20.04.)** 23-27.02. ачысці арганізм, вярніся да натуральных метадаў лячэння. Бараны народжаныя на пераломе сакавіка і красавіка няхай трымаюць свае нервы на прывязі. Можаш спадзявацца калі не павышэння, дык прынамсі пахвалы шэфа. Будзеш вельмі пераканаўчым у размовах на тэму працы, будзеш ведаць сваю вартасць. Разлічвай найлепш на сябе, бо заўсёды будзе хтосьці, хто схоча цябе падставіць. У апошнія дні лютага не рызыкуй.

**(21.04. — 21.05.)** Пакажацца твая нязломнасць. Поспехі да 27 лютага будуць трывалыя і салідныя. Вялікае адабрэнне сярод знаёмых. Файныя сустрэчы ў большым коле. Але могуць адазвацца турбуючыя цябе здаўна нямогласці — не рабі нічога праз сілу, прымяняй лякарствы. Не бяры на цябе зашмат абавязкаў; заробку хопіць.

**(22.05. — 22.06.)** Будзь адважны, лёс аддзячыць. На працягу ўсяго працоўнага тыдня старайся трымаць язык за зубамі і не выдаваць сваіх сакрэтаў. Працуючы над новымі праектамі, не давай навакольным унікаць у іх сутнасць, інакш сёй-той вырашыць іх у цябе «запазычыць».

**(23.06. — 23.07.)** Добры час паправіць красу, змяніць сваю моду, схадзіць да цырульніка (23-27.02.). Дома гармонія. Мноства прапаноў на працы, пахвалы. Ракі вядучыя сваю фірму могуць увесці ў яе шмат навінак, пакарыстацца датацыямі і фондамі, асучасніць яе.

**(24.07. — 23.08.)** Усё яшчэ тая гайданка настрояў — аж да 28.02. Але можаш падбаць аб пахудзенне, бо „сядзе” табе пазваночнік. Накіруй свае намаганні і стаpанні на паляпшэнне свайго сацыяльнага становішча. Актуальнымі для цябе справамі стануць размеркаванне даходаў, выплата падаткаў і пошлін. Гэта зручны час, каб звярнуцца да экспертаў для дзелавой або персанальнай парады. Не прабуй чагосьці вырашыць сам, не з’яўляючыся спецыялістам у якой-небудзь сур’ёзнай справе.

**(24.08. — 23.09.)** 23-27.02. чакае цябе рандэву тваіх мараў. 23-25.02. не выкажы сваіх таямніц выпадковым людзям, бо выкарыстаюць іх супраць цябе. Не марнуй энергії на бессэнсоўныя дзеянні, бо яе не будзеш мець зашмат. Больш варушыся, а смачныя вячэры з’ядай раней. Можаш цяпер паразмаўляць аб павышэнні на працы.

**(24.09. — 23.10.)** Грошы збіраеш хутчэй, чым выдаеш. Але цяпер можаш дазволіць сабе на малое шаленства з пакупкамі! Шалі шукаючыя працы, магчыма, атрымаюць пару прапаноў. Навучышся творчага пагляду на свае магчымасці прафесійнага развою. Зможаш брацца за нават вельмі смелыя выклікі. Цвёрда трымайся сваіх прынцыпаў.

**(24.10. — 22.11.)** Да 23.02. добры час на заручыны, шлюб, прызнанне — сувязь будзе трывалая і стабільная. Неператамляйся, не нервуйся, добра высыпайся — сапраўды цяпер урэшце можаш адпачыць! 24-28.02. будзеш вельмі адважны, абароніш свае рацыі. Можаш за сваё хобі дастаць грошы! Кончацца твае фінансавыя праблемы і перастанеш баяцца, ці дасі рады жыць на задавальняючым узроўні.

**(23.11. — 22.12.)** Мілая атмасфера дома. Задбай аб дыету. Разумна заінвестуеш, будзеш мець у гэтым падтрымку партнёра. На гэтым тыдні захочацца табе ў чымсьці дапамагчы людзям, аднак будзь стрыманым у сваім парыве, бо сядуць табе на шыю. Пазбягай вялікага фізічнага напружання. Знойдзеная ў гэты перыяд брошка будзе знакам фатальнай цягі і шалёнай страсці.

**(23.12. — 20.01.)** Да 27.02. будзеш радасны, энтузіястычны. Шмат спраў пойдзе карысна. Але ў здароўі горш — абвастрацца старыя захворванні, трэба можа будзе ісці на аперацыю — усё пойдзе добра.

**(21.01. — 19.02.)** Да 26.02. можаш быць моцнаператомлены. Надарацца табе праблемы з суседзямі, якія сваёй бядой абцяжараць цябе; можа быць табе з гэтым зацяжка. Але справа будзе дынамічная, час пакажа што будзе далей. Лячыся натуральна.

**(20.02. — 21.03.)** 22-26.02. — час спрыяе фліртам і раманам. Твая краса і вабнасць зняволяць усіх каго хочаш! На гэтым тыдні дасць аб сабе ведаць стары канфлікт. Паспрабуюць вывесці цябе з раўнавагі. Трымайся збоку ад непрыемных людзей, гатовых да правакацыі. А ў канцы тыдня будзеш мець шмат зносін з роднымі і блізкімі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.



У фоне сераднявяковых фрэсак у манастыры ў Гелаці. Фота Д. Нахіла

# Мода на Грузію

## (ч. 8)



Ля цудадзейнай магілы цара Давіда Будаўніка (Гелаці)

**На канец мы зноў вярнуліся ў Кутаісі, у гасцінны пансіянат Людмілы. У яўрэйскі квартал дабіраліся мы познім вечарам, у атмасферы надуманай пагрозы і небяспекі. Хоць набліжалася поўнач, на вулачках, апусцелых за дня, выстойвалі хмары мужчын. Усе яны ажыўлена пра нешта спрачаліся, талкавалі. Здалёк пахла нейкай ваеннай мабілізацыяй. Магчыма, такія думкі наклікала рэха нядаўняй вайны 2008 года між Грузіяй і Расіяй, якая трывала пяць дзён і нанесла тэрытарыяльныя затраты для Грузіі.**



Што яшчэ магло б адарваць сучаснага мужыка ад тэлевізара і заклікаць яго ў кампанію пад адкрытым небам у пачатку халоднага снежня?

На месцы мы зразумелі памылку, ды нават здзівіліся сваёй дурноце. Мужчынскія групы звычайна выстойвалі ля крамаў і мініяцюрных ларкоў, якія працавалі поўным ходам і днём іх не прыкмячалася. Ніхто аднак не займаўся выпіўкай, не буяніў, не дэманстраваў незадаволенасці. Наадварот, сярод грамады, падзеленай на невялікія групы, ішла дзелавітая бяседа, акрашаная страсцю і сакавітым гумарам. Усё адбывалася тут згодна з яўрэйскай традыцыяй, як тысячу гадоў таму. Натоўп таксама не з'явіўся выпадкова, усе хацелі паспець яшчэ паспрабаваць свайго шчасця. Якраз завяршаўся апошні, восьмы дзень „Ханукі", калі кожны яўрэйскі мужык, згодна з народнай традыцыяй, меў сямейны дазвол і нават абавязак аддацца азарту. Таму, нягледзячы на познюю пару, поўным ходам працавалі латарэі, нехта гуляў у настольныя ігры на грошы, яшчэ іншыя тоўпіліся ля букмекерскіх кантор.

Заварожаныя нечаканай і каларытнай карцінай, мы таксама паддаліся настрою месца, у выніку чаго заблудзілі на простай дарозе. Два ці тры разы, як сляпыя, абмінулі вулачку, дзе знаходзіўся наш пансіянат. Атмасферу кайфу падбівала наяўнасць пальмаў, якія раслі ля апусцелых, часта напаўразбураных дамоў з закадаванай у мурах і пачарнелых вокнах тайнай.

* * *

Менавіта нягледзячы на дзелавы зрух, у вокнах дамоў не хапала святочных агеньчыкаў, якія гарэлі ў перыяд „Ханукі". Па ліку свечак, запаленых у рытуальным падсвечніку, можна было вызначаць чарговасць дня свята — яно доўжылася восем дзён, а яго ранг і значэнне можна параўнаць да хрысціянскага Божага Нараджэння. „Хануку", інакш Свята святла, адзначалі ў памяць Паўстання Макавеяў, у выніку якога яўрэйскі народ звергнуў прыгнёт іншапляменцаў і вярнуўся да рэлігіі продкаў. Момант вызвалення аб'явіўся цудам: праз восем дзён у вернутай святыні гарэла рытуальная лямпка з алівай, якая сама з сябе аднаўлялася...

Яўрэйская дыяспара ў Кутаісі да 1965 года лічылася адной з найбольшых на Каўказе. Як адзначаюць крыніцы, першыя яўрэі прыбылі ў Грузію пасля знявлення Іерусаліма Навухаданосарам у 586 г. да н.э. Спачатку сяліліся ў буйных гарадах на поўдні краіны, дзе займаліся рамяством, гандлем, а таксама навукай. Яўрэйкай была сярэдневяковая інтэлектуалка Саламея, аўтарка агіграфіі хрысціцелькі Грузіі святой Ніно.

Пасля мангольскага нашэсця становішча рэзка змянілася ў некарысць грамады. Яўрэі сталі пападаць у залежнасць ад феадалаў. Яны пагаджаліся быць падуладнымі пад адной умовай: іх вяльможы абяцалі захаваць веравызнанне. На практыцы гэта выглядала па-рознаму, з-за чаго ў пятнацатым і шаснаццатым стагоддзях вялікая колькасць яўрэяў збегла ў Крым, а цягам двух наступных — у суседні Іран. Толькі пасля 1864-1871 гг., калі прыйшла адмена прыгоннага права, яўрэі маглі купіць сабе волю і пасяліцца ў гарадах. Больш-менш тады гвалтоўна разрастаюцца гарадскія суполкі, — да гэтай пары яўрэі жылі ў невялікіх групах пры дварах ці ў паасобных вёсках, раскінутых часам у недаступных гарах, дзе найчасцей займаліся земляробствам. Іх пераход у гарады сышоўся якраз з развіццём прамысловасці. Новапасяленцы мелі магчымасць зноў заняцца рамяством і гандлем, ды тым самым падмацаваць свой мізэрны матэрыяльны быт. Гэта наклікала рэакцыю і незадавальненне хрысціянскай большасці, якая, пад'юджаная царскімі акупантамі, арганізавала крывавыя пагромы. У 1878 г. у Кутаісі адбыўся славуты „Кутаіскі працэс". На ім судзілі дзевяцярых яўрэяў, абвінавачаных у рытуальным забойстве хрысціянскай дзяўчынкі з мястэчка Сахачэры. Абвінавачаных суд палічыў нявіннымі, што адбілася шырокім рэхам у тагачасным свеце.

Падзея, сама па сабе векапомная, не памяняла аднак адносін да яўрэяў, якіх у момантах палітычнага ці гаспадарчага крызісу мясцовыя далей успрымалі ў якасці казлоў адпушчэння. Апошні крывавы пагром у Кутаісі адбыўся адносна нядаўна, у 1965 годзе.

* * *

Мы мелі шчасце наткнуцца на працяг жывой традыцыі ў напаўапусцелым квартале старажытнага Кутаісі. Нашае ўдзельніцтва мела больш турыстычны, чым рытуальны характар.

Нягледзячы на познюю пару, Людміла, ветлівая гаспадыня пансіяната, прычакала аж вернемся з горада. У прыёмнай чакаў нас салодкі стол, з пончыкамі, прыпудранымі цукрам, шакаладныя цукеркі і мандарыны. Падобны прыём яна падрыхтавала дзень раней. Праўда, тады мы яшчэ не разумелі ўсяго, што адбываецца, ці больш дакладна, не спадзяваліся такой адкрытасці на яўрэйскую традыцыю. Людміла запаліла ў «ханукіі» — рытуальным падсвечніку — восем свечак і паставіла яе на акенцы ля партрэта пакойнага цесця.

— Гэта ён збудаваў дом, — дадала мімаходам.

Згодна з традыцыяй, у час калі мужыкі любаваліся азартам, жанчыны збіраліся ў кампанію ля салодкага стала, каб гутарыць на бабскія тэмы. Абрад прысвячаўся памяці цнатлівай удавы Юдзіф і яе геройству, якая спачатку прычаравала, а пасля забіла (адрэзваючы галаву) галоўнага асірыйскага палкаводца Алаферна.

Людміла, расіянка па паходжанні, прызналася ў сваіх праблемах. Яна не разумела грузінскай мовы, з-за чаго не заўсёды адчувала сябе камфортна. У яе ўяўленні ідэальнай прасторай для жыцця быў Савецкі Саюз. З мужам, лекарам па прафесіі, пазнаёмілася яна ў Маскве, пасля на пятнаццаць гадоў з'ехалі ў Ізраіль. З гэтай прычыны іх дачка таксама не ведала грузінскай мовы. Яна хадзіла ў рускую школу і збіралася паступаць ва ўніверсітэт у Маскве. Адзінай закаранелай асобай у гэтым старым, абшырным доме з агародам быў гаспадар. Менавіта яго настальгія па Грузіі заставіла вярнуцца ў Кутаісі. У квартале падносілі з заняпаду сінагогу, хаця будучыня яўрэяў не выглядала надзейна. Пасля 1965 года адсюль з'ехала за семдзесят адсоткаў жыхароў квартала, пераважна ў Ізраіль. Частка з іх, як наш гаспадар, вярнуліся назад у Грузію за прэзідэнцтва Саакашвілі, які вопыт і адукацыю грузінскіх яўрэяў выдатна скарыстаў у працэсе мадэрнізацыі краіны. Людміла, нягледзячы на свой поспех у галіне турызму, не сумнявалася ў поўнае адраджэнне яўрэйскай грамадскасці ў Кутаісі.

— Да сямідзесятых гадоў тут пражывала дзесяць тысяч яўрэяў, — падвяла сваю выснову, — а сёння засталося сорак сем'яў.

* * *

Апошні дзень грузінскай вандроўкі мы правялі на базарчыках у Кутаісі, наведалі таксама царкву, каб паўдзельнічаць у грузінскай багаслужбе. З-за яе сцішанай і намоленай атмасферы мы зноў перанесліся ў часы пачаткаў хрысціянства. Гэта нам падабалася і дапамагала ў нечым зразумець закаранелы, жыццярадасны менталітэт грузінаў. На развітанне з горадам мы некалькі разоў акружылі фантан з залатымі конікамі ды паабяцалі сабе вярнуцца ў гэтае месца. Мы гадалі ўголас як пераменіцца месца, ці пойдзе яно ў бок гвалтоўнай мадэрнізацыі, як Тбілісі. Змены, здавалася, тут непазбежныя. У 2012 г. у Кутаісі перавялі грузінскі парламент, з-за чаго горад набыў новае жыццё. Цэнтр памаленьку набываў рысы сучаснай метраполіі, які, згодна з духам і кірункам, явіўся аднachасова самым старажытным у свеце і адначасова маладым — мадэрным. Адлятаючы ў Еўропу, мы пакланілі свае галоўкі перад мадэрнай фігурай Давіда Будаўніка.

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960